# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 35 (2281) 27 жніўня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).






**17 жніўня 1992 года было ў Мінску яўленне праасвяшчэннай Дзевы Марыі. Паглядзела яна на горад наш, падняла ўгору рукі для благаславення, угледзелася ў нашы твары... ды і вырашыла застацца тут. Мабыць, пашкадавала нас, шматпакутных, Чарнобылем, засухай і бясконцым узняццем цэнаў змардаваных. Не дарма ў народзе гавораць: хто каго любіць, той таго і чубіць. Любіць Бог Беларусь, ой, як любіць. Таму, мабыць, і святую заступніцу паслаў да нас. А што тут дзіўнага! Калі некалі Хрыстос прызямліўся ў Гародні, чаму б зараз Маці Боскай не завітаць у Мінск! А хто не верыць, прыязджайце да нас, ідзіце ў Кафедральны сабор і схіліцеся перад прыгажосцю Дзевы Марыі, што зззяе золатам і нябесным блакітам на фасадзе храма.**

**З гэтай нагоды адбылося ўрачыстае набажэнства, а мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі асвяціў ікону-мазаіку, якую выканала група мастакоў-экзографаў пад кіраўніцтвам Яўгена Ключарова.**

**А мне ўсё думаецца: можа святая суцяшальніца ўвогуле ніколі наш горад не пакідала! Бо менавіта яна адлюстравана на старажытным гербе Мінска. А зараз проста вырашыла зноў нам паказацца напярэдадні 1000-годдзя хрышчэння Белай Русі. Як бы там ні было, барані нас, Маці Боская!**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: урачысты малебен; мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі ФІЛАРЭТ асвячае ікону.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

*ПРА ГУМАНІТАРНУЮ ПАДРЫХТОЎКУ Ў ТЭХНІЧНЫХ ВНУ*

## ЦІ ПАТРЭБНА ІНЖЫНЕРУ ВЕДАННЕ ГІСТОРЫІ?

Шмат змяненняў у свеце. Але ж нязменна адно: студэнт і яго імкненне да ведаў і адукацыі.

Кажуць, студэнты ад сесіі да сесіі жывуць весела. Аднак як бы там ні жартавалі з таго, як здаюць экзамены студэнты, да навукі яны не абыякавыя. Асабліва зараз, калі прэстыж яе паступова павышаецца.

Праўда, сёння студэнт часта бывае не задаволены менавіта якасцю ведаў. Нядаўнія выпускнікі добра памятаюць, што галовы іх забівалі на першых курсах гісторыяй КПСС, навуковым камунізмам, паасобку палітэканоміяй сацыялізму і капіталізму. Назаўжды запомню, як тры гады назад у БДУ нам тлумачылі словы Леніна пра «загнивающий капитализм». Сцвярджалася, што Ленін меў на ўвазе не крах капіталістычнага грамадства, а яго відазмяненне. Так на занятках прыстасоўвалі старыя прынцыпы да новай сітуацыі ў грамадстве. Парушалася ўсякая логіка. Рабілася гэта вельмі наіўна і непераканаўча.

Тысячы маладых людзей атрымлівалі дыплом, не пазнаўшы ні філасофіі, акрамя марксісцка-ленінскай, ні гісторыі, акрамя КПСС і школьнага курса. Як вядома, на тэхнічных факультэтах не праходзілі іншых гуманітарных прадметаў. Так і «ішлі ў людзі» без сапраўдных ведаў пра жыццё і свет.

Калі гаварыць пра нацыянальную свядомасць і чалавечую годнасць, то дарэчы меркаваць, што гэтымі якасцямі павінны ў поўнай меры валодаць якраз прадстаўнікі інтэлігенцыі. Добра, калі гэтыя якасці ўспрыняты чалавекам з малаком маці. А калі не, то не магла выхаваць іх ні наша сярэдняя, ні вышэйшая школа.

Хацелася б, каб навучальныя ўстановы былі здольныя рыхтаваць сапраўды інтэлігентных людзей з пэўнымі ведамі як у тэхнічнай, так і ў гуманітарнай галінах.

Сёння ўжо няма ў кожнай ВНУ кафедр навуковага камунізму і гісторыі КПСС. Створаны іншыя. Кафедра беларусазнаўства — у Брэсцкім, кафедра беларускай культуры — у Мінскім педінстытутах. У радыётэхнічным заснавана кафедра гуманітарных дысцыплін. Там вывучаюць гісторыю культуры Беларусі, праблемы айчыннай і сусветнай гісторыі.

Аднак праблема выкладання грамадска-палітычных дысцыплін існуе. У канцы верасня павінна адбыцца калегія Міністэрства адукацыі якраз па гэтай праблеме. Пра саму падзею трошкі пазней. А пакуль пра тое, як абмяркоўваецца пытанне гуманітарных дысцыплін у грамадстве.

### ПРА КАШЧЭЯ БЕССМЯРОТНАГА

Такі вобраз выкарыстаў у сваім артыкуле Сяргей Дзянісаў, першы прарэктар Мінскага медінстытута. Кашчэі Бессмяротныя ў яго — гэта старыя выкладчыкі, што не жадаюць добраахвотна пакінуць кафедру. У артыкуле паважанага прарэктара не выклікае даверу можа толькі казачны персанаж. 2—3 галавы адначасова замест адной ссечанай выраслі ў Змея Гарыныча. Гэта, канешне, дэталь. Пад галовамі тут маюцца на ўвазе вучэбныя прадметы, што з'яўляюцца замест былых пракамуністычных. Сяргей Дзянісаў падкрэслівае ў сваім артыкуле, што сутнасць іх не змянілася, нягледзячы на тое, што яны маюць новыя назвы — гісторыя айчыны, сусветная культура, палітычная гісторыя. Калі выкладчыкі старыя — прадметы тыя ж, сталінска-брэжнеўскага накірунку. Такая галоўная думка аўтара. Больш

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ДА НАШЫХ СЯБРОЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ

**Рэдакцыя «Голасу Радзімы» шчыра ўдзячная сваім чытачам, хто застаўся верным газеце, нягледзячы ні на якія фінансавыя праблемы ды іншыя цяжкасці, што спадарожнічалі нам у 1992 годзе.**

**Спадзяёмся, што яны не адмовяцца ад «Голасу Радзімы» і на 1993 год, а можа асабістым прыкладам яшчэ і прыбавяць нам чытачоў у 1993 годзе, не зважаючы на тое, што кошт падпіскі на газету павялічыўся ў некалькі разоў.**

**Падпісная кампанія пачалася з 10 жніўня.**

**Індэкс «Голасу Радзімы»—63854.**

У ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ

## ЗАРПЛАТА І ЦЭНЫ

Як паведаміў Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь, сярэднемесячная заработная плата рабочых і служачых у першым паўгоддзі 1992 года склала 2 590 рублёў і ўзрасла ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў 7,4 раза. У чэрвені яна дасягнула 4 319 рублёў і павялічылася за паўгоддзе ў 4 разы. Рознічныя цэны на тавары і паслугі за гэты перыяд узраслі ў 5,5 раза.

Сярэднемесячная заработная плата рабочых і служачых Расіі ў першым паўгоддзі бягучага года склала 3 021 рубель, у тым ліку ў чэрвені—5 067 рублёў, Казахстана—2 063 рублі і 3 599 рублёў, Латвіі—2 835 і 4 675, у Літве заработная плата рабочых і служачых у чэрвені склала 5 768 рублёў.

ПРЫВІД ЛЯ НАШЫХ ДЗВЯРЭЙ

## ЧАГО ВАРТЫ ДЫПЛОМ

Яшчэ год-два назад кожны выпускнік любой навучальнай установы разам з дыпломам аб заканчэнні яе атрымліваў скіраванне на працу. Сёння ж, па даных Гарадскога цэнтра занятасці, у Мінску склалася катастрафічнае становішча з працаўладкаваннем маладых спецыялістаў. Каля трэці іх не атрымалі гарантыі ўладкавання на работу. А па асобных вышэйшых навучальных установах, тэхнікумах і ПТВ карціна яшчэ больш цяжкая. Беларуская акадэмія мастацтваў: самастойна шукаюць месца ўсе 100 працэнтаў выпускнікоў, інстытут культуры—79, Дзяржаўны эканамічны універсітэт—42. А на спецыяльнасці бухгалтарскі ўлік у гандлі 70 працэнтаў. Беларуская політэхнічная акадэмія—36, у тым ліку на прыкладной матэматыцы—96 працэнтаў. Падобнае становішча і ў сярэдніх навучальных установах. Не размеркавана больш палавіны выпускнікоў электратэхнікума сувязі. Застаўся без спраў і кожны трэці выпускнік ПТВ.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ» ВЁСКА

У Міністэрстве замежных спраў Беларусі адбылася прэзэнтацыя праекта дыпламатычнай вёскі, якая будзе складацца з комплексу пасольскіх будынкаў з утульнымі дворыкамі, садамі, басейнамі, аўтастаянкамі і шматлікіх памяшканняў абслугоўвання.

Мінск—прыгожы горад, але ён не мае ўмоў для размяшчэння тут замежных прадстаўніцтваў. Для гэтага патрэбны асабнякі са зручнымі пад'язнымі шляхамі... Такія будынкі ў Мінску можна па пальцах пералічыць. А пакуль большасць з 15 пасольстваў, якія ўжо працуюць у Беларусі, знаходзяцца ў гасцініцах, што дастаўляе мноства нязручнасцей для дыпламатаў. Вось чаму інстытуту «Беларусьпраект» было прапанавана распрацаваць спецыяльны архітэктурны ансамбль, які быў бы зручны дыпламатычнаму корпусу і адпавядаў палажэнню аб знаходжанні замежных місій на тэрыторыі Беларусі.

Пасольскую вёску мяркуецца размясціць у канцы праспекта імя П. Машэрава. Будаўніцтва яе будзе весціся як за сродкі дзяржаў, якія хочуць мець у Мінску свае прадстаўніцтвы, так і за кошт рэспубліканскага бюджэту. Потым гатовыя будынкі будуць здавацца ў арэнду або прадавацца жадаючым.

УЦЕЧКА МАЗГОЎ

## ХУТЧЭЙ НА ЗАХАД

Беларусь у 1990 годзе пакінулі на кожныя 100 тысяч жыхароў 332 чалавекі, што значна перавышае паказчыкі па іншых рэгіёнах былога Саюза. Сярод гарадоў першынство трывала захапіў Мінск — 626 чалавек на 100 тысяч жыхароў.

Сацыёлагі адзначаюць, што эміграцыйныя настроі па выніках некаторых апытанняў сярод вучоных у 10 разоў вышэйшыя, чым сярод іншых слаёў насельніцтва. Паводле даных сацыялагічнай службы «Грамадская думка», на сёння колькасць жадаючых пакінуць Беларусь складае 22 працэнты яе жыхароў.

Асноўнымі прычынамі, па якіх вучоныя жадаюць пакінуць рэспубліку, з'яўляюцца дрэннае фінансаванне работ, агульная палітычная і эканамічная нестабільнасць, непрэстыжнасць працы вучонага. Апытанне, праведзенае Інстытутам сацыялогіі ў сістэме акадэмічных інстытутаў, паказала, што супрацоўнікаў, якія жадаюць сёння застацца працаваць у рэспубліцы, сярод матэматыкаў—60, сярод фізікаў —50, сярод спецыялістаў па інфарматыцы—40 працэнтаў.

З агульнай колькасці апытаных супрацоўнікаў Акадэміі навук 51 працэнт выказаў гатоўнасць неадкладна паехаць працаваць па кантракту на Захад.

*«Нельга не заўважыць, што армію не выпускаюць з палітычных ціскоў. У большай ступені гэта прыкметна ў сродках масавай інфармацыі. Адносіны да арміі становяцца барометрам вымярэння пазіцый нават для грамадскіх арганізацый. Нам бы не хацелася быць у эпіцэнтры палітычных сварак. Занадта гэта складана і ненармальна для арміі, якая павінна служыць народу і дзяржаве. Таму мы, ваенныя, чакаем канструктыўнай зацікаўленай дапамогі ад прадстаўнікоў чацвёртай улады. Яе, на жаль, пакуль мала ў друку, у тэле-, радыёперадачах. У армейскае асяроддзе, якое заўсёды было глыбока інтэрнацыянальным, робяцца спробы ўкараніць вірус надуманага нацыяналізму. Некаторымі функцыянерамі псеўдапатрыятычных рухаў ставіцца агульнае, зняважлівае кляймо на афіцэраў, генералаў небеларускай нацыянальнасці, іх абвінавачваюць нібыта ў патэнцыяльнай няшчырасці ў служэнні народу Беларусі. Гэта, па меншай меры, некарэктна і адстае ад сённяшніх нашых нялёгкіх рэальнасцей, якім, як паветра, патрабуецца стабільнасць і здаровы розум».*

*П. КАЗЛОЎСКІ,*
*міністр абароны РБ.*

ЗАРАБЛЯЮЦЬ НА МАРОЖАНАЕ

Гэтыя брэсцкія дзеці [на здымку] зарабляюць сабе на марожанае самі. Кожную пятніцу з'яўляюцца яны ў рэдакцыі новай гарадской газеты «Вечерний Брест», каб, узяўшы стос свежых экземпляраў, разнесці іх па гораду. «Вячорка» раскупляецца ў лічаныя гадзіны. Такая форма супрацоўніцтва аказалася выгаднай і рэдакцыі, і юным распаўсюджвальнікам газеты. Папулярнасць, а з ёю і тыраж «Вечернего Бреста» рэзка ўзраслі, а школьнікі за сваю працу з кожнага прададзенага экземпляра атрымліваюць 45 капеек.




АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

## ЗНОЎ МІХАІЛ МЕЛЬНІК

250 каробак вітамінаў, кошт якіх складае 700 тысяч нямецкіх марак, нядаўна прывёз у Мінск з Германіі Міхаіл Мельнік. Гэта імя нашага земляка родам з-пад Мінска ўжо шырока вядомае ў Беларусі. Ён адным з першых адгукнуўся на заклік Беларускага таварыства «Радзіма» дапамагчы ратаваць свой народ ад чарнобыльскай бяды.

Груз гуманітарнай дапамогі, пра які мы згадалі, ужо адзінаццаты па ліку, што прывозіць на Радзіму Міхаіл Мельнік. Вітаміны чакаюць у паліклініках і санаторыях, дзе праходзяць курс лячэння дзеці, якія найбольш церпяць ад чарнобыльскага выбуху.

А Міхаіл Мельнік абяцае збіраць дабрачынныя ахвяраванні і, прынамсі, раз на два месяцы прывозіць нашым людзям вітаміны, лекі, медыцынскае абсталяванне.

САЦЫЯЛЬНЫ РАЗРЭЗ

## БЕДНАСЦЬ

На Міншчыне за рысай беднасці жыве 80 тысяч чалавек, прычым гэтая лічба пастаянна павялічваецца. Сярод іх 32 тысячы пенсіянераў, 12 тысяч адзінокіх старых, 4 300 сем'яў, якія даглядаюць інвалідаў першай групы, 4 700 адзінокіх маці і 6,6 тысячы мнагадзетных сем'яў. Ва ўсіх пералічаных катэгорыях даход на аднаго члена сям'і меншы за мінімальную зарплату.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Званне «Ганаровы грамадзянін» у сталіцы носяць усяго 14 мінчан. Яно прысвоена трохразоваму алімпійскаму чэмпіёну Аляксандру Мядзведзю, акадэміку Ігнацію Антонаву, людзям, якія вызначыліся пры вызваленні Мінска ад нямецкіх акупантаў.

Сярод ганаровых мінчан ніколі не было партыйных і савецкіх дзеячаў.

● Зноў падаражалі міжнародныя тэлефонныя размовы. З 15 жніўня ўведзены новыя тарыфы. Цяпер адна мінута тэлефоннай сувязі Беларусі са Злучанымі Штатамі Амерыкі каштуе ўжо 96 рублёў, а з суседняй Польшчай ці Германіяй — 48 рублёў.

● У Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь ляжыць 11 тысяч рапартаў афіцэраў-беларусаў, якія служаць у краінах Садружнасці і хацелі б вярнуцца на радзіму. Але толькі 8 працэнтаў з іх маюць тут жыллё. З 40 тысяч афіцэраў, што праходзяць службу за межамі Беларусі, 80—90 працэнтаў — спецыялісты войск супрацьпаветранай абароны і палітработнікі.

● У нашым «звярынцы» (так у народзе называюць беларускія грошы) чакаецца прыплод. Да ваўкоў, зайцоў, вавёрак ды іншай фауны, выпушчаных на свет 25 мая г. г. (дзень увядзення ў абарачэнне беларускага рубля), хутка далучацца бабры, ласі і зубры. Гэта значыць — грашовыя знакі вартасцю 3,25 і 100 рублёў Нацыянальнага банка рэспублікі.

● Год назад консул Балгарыі ў Мінску Пётр Куцараў наведаў праваслаўную царкву, што была закладзена ў Пагост-Загародскім на Піншчыне ў гонар славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Ён прапанаваў надаць імя вялікіх славян адной са школ. І вось праз год Савет Міністраў рэспублікі прыняў пастанову: сярэдняя школа ў Пагост-Загародскім будзе насіць імя Кірылы і Мяфодзія.

● Студэнты галандскіх каледжаў пройдуць стажыроўку ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. На працягу васьмі тыдняў яны будуць весці гутаркі-дыялогі з нашымі вучонымі па праблемах жывёлагадоўлі, механізацыі і эканомікі сельскай гаспадаркі, знаёміцца з вучэбнай гаспадаркай і доследнымі палямі акадэміі.

ШЛЮБ І СЯМ'Я



У Гомелі пачаў працу абласны медыка-генетычны цэнтр «Шлюб і сям'я». Падобныя цэнтры працуюць ужо ў Мінску і Магілёве. Маладыя сем'і, дзе чакаюць дзіця, могуць атрымаць тут кансультацыі медыкаў, поўную інфармацыю аб стане здароўя будучага дзіцяці, каб дакладна ведаць, ці няма паталогіі ў развіцці плода. Калі ж абследаванне жанчыны на ранняй стадыі цяжарнасці пацвярджае паталогію, прапаноўваецца перапыніць цяжарнасць. Аперацыйнае ўмяшанне будзе праводзіцца тут жа, у цэнтры, вопытнымі ўрачамі, якія прайшлі стажыроўку ў Галандыі і Швецыі.

У цэнтры можна атрымаць кансультацыі маладажонам па праблемах сям'і і шлюбу, трапіць на прыём да ўрача — акушэра-генетыка і педыятра-генетыка, лячыць бясплоднасць.

НА ЗДЫМКУ: абследаванне будучай маці вядзе ўрач Галіна СІТНІК.

# ЦІ ПАТРЭБНА ІНЖЫНЕРУ ВЕДАННЕ ГІСТОРЫІ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

таго, ён сцвярджае, што грамадска-палітычныя курсы часта замінаюць навучанню па асноўнай прафесіі. Здзіўляе наша спрадвечная абмежаванасць, проціпастаўленне паняццяў рознага ўзроўню. Медык (як і тэхнолаг, педагог) у ідэале павінен дасканала валодаць прафесійнымі ведамі. Але гэта не азначае, што яму не патрэбны веды па гісторыі, сацыялогіі, мастацтву. Гаворыць Сяргей Дзянісаў, што быццам у Еўропе ў медінстытутах не вывучаюць гуманітарныя дысцыпліны. Аднак ёсць іншыя звесткі: 20 працэнтаў вучэбнай нагрузкі ў навучальных установах ФРГ адводзіцца на гэтыя прадметы. Яшчэ ў пачатковай, потым асноўнай і рэальнай школах маладыя людзі вывучаюць рэлігію, гістарычныя навукі, эканоміку, псіхалогію, мовы. Канешне, няма сэнсу вучыць тыя ж дысцыпліны яшчэ раз у інстытуце.

У нашых жа медыцынскіх ВНУ аб'ём выкладання грамадскіх дысцыплін скарочаны ў 2 разы.

І гэта ўжо не здзіўляе, калі Сяргей Дзянісаў заявіў у сваім артыкуле, што праблема грамадскіх навук — адна з тых, што «не стоят выеденного яйца».

## ГНАНАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

Здаецца, так не лічаць у політэхнічнай акадэміі. Ва ўсякім разе ўвагу да сябе кафедры заслужылі. Яшчэ ў 1989 годзе кафедра гісторыі КПСС была перайменавана ў кафедру палітычнай гісторыі. Зараз жа яна стала называцца — «айчыннай і сусветнай культуры». Сапраўды, было не зразумела, якое дачыненне мае вывучэнне культуры да палітычнай гісторыі. А гэтае дачыненне, хаця б па напрамку, быць павінна, калі ўжо ўзнікла адна кафедра замест другой. Храналагічна гэта было звязана са жнівеньскім путчам. Менавіта тады пачалі даваць новыя і вяртаць старыя імёны гарадам і вуліцам. У акадэміі пачаліся сумненні: ці адпавядае курс палітычнай гісторыі часу і ці не з'яўляецца ён гісторыяй КПСС з новай назвай? Станоўча адказаўшы на гэтае пытанне, кафедру перафарміравалі. Палітычную гісторыю ў БПА больш не выкладаюць. Я не ведаю, як там чыталі лекцыі. Магу толькі сказаць, што я бачыла рэфераты, якія рыхтавалі студэнты. Іх паказаў мне дацэнт кафедры Уладзімір Ермалаеў. Яны тычыліся калектывізацыі (за і супраць), Беларускай Народнай Рэспублікі, сталінскіх рэпрэсій. Курс быў прысвечаны палітычным .партыям, групам, плыням, працам 30-х гадоў. Дарэчы, магу дадаць, што менавіта палітычную гісторыю скончылі вывучаць у летнім семестры студэнты 3-га курса факультэта журналістыкі БДУ. Канешне, не было падручнікаў. Аднак былі лекцыі выкладчыка. Мелі яны накіроўваючы характар і давалі агульныя звесткі. Студэнты рыхтаваліся па дакументах, часопісах, па асобных артыкулах у кнігах. Курс ахапіў матэрыял ад дзекабрысцкіх арганізацый да сучасных палітычных партый Беларусі. І, ведаеце, калі выкладчык не душыць асабісты погляд студэнта, дае яму права думаць, адбываецца цікавы працэс вучобы нават для людзей, далёкіх ад палітыкі. Веды гэтыя могуць дапамагчы яму лепш арыентавацца і ў сённяшняй складанай сітуацыі. І яшчэ, мне здаецца, сур'ёзнае вывучэнне палітычнай гісторыі выхоўвае непрыняцце насілля ў любым выглядзе. Гісторыя нашай краіны дэманструе, чым заканчваюцца рэвалюцыі, войны, дыктатура. Каб наш сумны вопыт не паўтарыўся, гісторыю неабходна ведаць. Не хочацца, каб у БДУ ліквідавалі гэты курс, як зрабілі ў Політэхнічнай акадэміі.

Сёння на створанай кафедры гісторыі айчыннай і сусветнай культуры ў БПА вывучаюць гісторыю Беларусі і гісторыю культуры. Вось, аднак, што заўважыў Уладзімір Ермалаеў:

— Вывучэнне гісторыі і культуры Беларусі абмежавана перыядам да 1917 года. Сістэматычны курс гісторыі і культуры зняты з вучэбнага плана.

— Колькі ж гадзін аддадзена пад гэтыя курсы?

— Па плану — у першым семестры 34 гадзіны на гісторыю Беларусі, у другім 56 гадзін на сусветную і айчынную культуру.

— Небагата. А скажыце, калі ласка, хто будзе выкладаць на кафедры гісторыю культуры?

— Да нас прыйшлі некалькі новых лектараў з кафедры філасофіі — спецыялісты па этыцы, эстэтыцы. Было б лагічна, каб яны чыталі курс па гісторыі культуры. Аднак гэта пытанне яшчэ не вырашана. Канешне, гісторыкі не згадзяцца на саматужніцтва — выкладаць філасофскую дысцыпліну. Яны не спецыялісты ў гэтай галіне.

— Ці лічыце вы магчымым сёння, калі няма пэўнай гістарычнай канцэпцыі, падручнікаў, выкладаць гісторыю Беларусі сіламі былой кафедры гісторыі КПСС?

— Я такое магу сабе ўявіць і бачу, што выкладчыкі ў большасці сваёй здольныя на гэта. Усе яны — гісторыкі, па-першае. Пры навуковым падыходзе да працы пры іх узроўні падрыхтоўкі курс гісторыі Беларусі можа адбыцца. Падручнікаў сапраўды няма. Але ёсць надрукаваныя работы Ігнатоўскага, Ермаловіча. На іх мы і нацэльваем студэнтаў. Што ж да канцэпцыі, то навукцы патрэбна шматканцэптуальнасць, на мой погляд. Усе мы — сведкі крызісу гістарычнай навукі, да якога прывёў нас адзіны пануючы погляд на падзеі гісторыі. Усе мы — яго ахвяры.

## ПРА КАШТОЎНАСЦЬ СУМНЕННЯ

Уладзімір Ермалаеў доўга яшчэ гаварыў пра свае праблемы гісторыка і выкладчыка гуманітарнай дысцыпліны ў тэхнічнай ВНУ.

У яго і ў Сяргея Дзянісава процілеглыя погляды. І ў аднаго, і ў другога ёсць свае прыхільнікі.

Мне ж успомніліся словы А. Салжаніцына аб тым, што скептыцызм — першапачатак здольнасці мысліць і розуму наогул. Ці не аднесціся са скепсісам да пазіцыі аднаго і другога паважаных выкладчыкаў? Ці не засумнявацца ў тым, што кожны стары выкладчык — Кашчэй Бессмяротны або Змей Гарыныч? Я не ўпэўнена, што гэта полчышча казачных герояў нічога не заўважае навокал, акрамя сваёй кафедры, за якую будзе трымацца, пакуль не загадаюць вызваліць месца. Калі створацца ўмовы, пры якіх пад новай назвай нельга будзе чытаць стары курс, не застануцца на кафедры тыя, каму там не месца.

І, канешне, можа не зусім мае рацыю Уладзімір Ермалаеў, так упэўнены ў магчымасцях сваіх калег. Гэта пазіцыі канкрэтных людзей. Які ж падыход да праблем гуманітарных дысцыплін на дзяржаўным узроўні? Цяпер, здаецца, самы час успомніць пра калегію Міністэрства адукацыі. Пра яе мы гаварылі з намеснікам міністра адукацыі Васілём Стражавым. Ён падкрэсліў, што адзін з галоўных напрамкаў адукацыйнага працэсу — яго гуманітарызацыя. Такая палітыка дзяржавы. Міністэрства не падзяляе пазіцыі некаторых ВНУ, якія пад прыкрыццём дэідэалагізацыі і дэпалітызацыі адмаўляюцца ад паліталогіі, сацыялогіі, скарачаюць курс філасофіі, гісторыі, эканамічнай тэорыі.

В. Стражаў паказаў мне матэрыялы, што падрыхтаваны ў міністэрстве да калегіі. Сярод іх «Даведка аб стане гуманітарнай падрыхтоўкі ў вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь», «Вопыт гуманітарнай падрыхтоўкі навучэнцаў у ЗША, Заходняй Еўропе, Расіі». Ёсць ужо праект рашэння аб стане гуманітарнай падрыхтоўкі ў ВНУ і мерах па яе ўдасканаленню. Распрацавана цэлая праграма. У верасні будзе пра што падумаць на кафедрах у ВНУ. На маё пытанне аб кадрах выкладчыкаў намеснік міністра адказаў:

— Мабыць, гэта адна з самых складаных праблем. Можна зразумець, з аднаго боку, інстытут, які не хоча, каб яго студэнтаў вучылі нікому непатрэбным дысцыплінам. І недавер да старых выкладчыкаў зразумелы: цяжка ім змяніцца за кароткі час. Але ж, з другога боку, выкладчыкі — людзі розныя. Таму і патрэбен прадуманы падыход да гэтага пытання. Канешне, прыйдзецца шмат перавучвацца. Дарэчы, у рэспубліцы створаны Нацыянальны інстытут гуманітарных ведаў (на месцы Інстытута ўдасканалення выкладчыкаў гуманітарных дысцыплін). У недалёкай будучыні кожны выкладчык павінен будзе прайсці перападрыхтоўку. І яна дасць магчымасць выкладаць на якасна новым узроўні.

Наваўвядзенне Міністэрства адукацыі здаецца мне вельмі патрэбным. Выкладаць гісторыю можна толькі адпавядаючы часу, валодаючы фактурай сучаснасці, дасягненнямі ў навуцы. А адпавядае гісторык гэтым патрабаванням ці не, павінна вызначыць кампетэнтная камісія. Яна можа атэставаць выкладчыка. Яна ж можа вынесці прыгавор і навуцы — адпавядае ці не яна часу.

І яшчэ пра адно сумненне. Ці маем мы права ацэньваць падзеі мінулага з пазіцый сённяшняга дня? Сёння вельмі проста папракаць кожнага выкладчыка ў выкладанні некалі пракамуністычных курсаў у ВНУ. Калі гэта стане нормай, можна прыйсці да вываду, што «чыстыя» ў нас толькі немаўляткі.

Усе ўдзельнічалі тады ў няпраўдзе. Яна была асновай дзяржавы. Што было, то было. Не трэба варожасці адзін да аднаго. Калі пачнём суд, хто ў сябе на кухні, хто на кафедры, не хопіць месца на лаўцы падсудных, бо нават суддзі могуць там апынуцца.

Што ж датычыцца гуманітарных дысцыплін у тэхнічных ВНУ, то хачу тое-сёе нагадаць. У недалёкім XIX стагоддзі адзін з сыноў простага доктара набываў адукацыю ў інжынерным вучылішчы. Вывучаў ён там мовы, філасофію, літаратуру, гісторыю і, канешне, спецпрадметы. Пазней ён стаў пісьменнікам. Увесь свет ведае Фёдара Дастаеўскага.

Нармальныя людзі ў любой краіне ведаюць сваю гісторыю. Гэта натуральна для спецыялістаў і гуманітарных, і тэхнічных навук. Чаму ж беларускім студэнтам не вывучаць гісторыю Беларусі? Ім яна патрэбна, як і палітычная гісторыя. Цяжка гаварыць пра дзяржаўную незалежнасць, дзе ў сістэме асветы адсутнічае гуманітарная адукацыя, гістарычная асаблівасць. Яна з'яўляецца адным са сродкаў выхавання інтэлігента і патрыёта. Не можа вайсковец абараняць, а земляроб працаваць на зямлі, пра якую нічога не ведае.

Алена СПАСЮК.

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ





А ці не пачаць нам сваю кнігу рэкордаў Гінеса? Хай была б беларускім дадаткам той, замежнай. Справа ў тым, што хутка не хопіць у ёй старонак, каб заносіць усе найвыдатнейшыя рэкорды, дзівацтвы ды проста ідыятызм, якія плодзіць наша сённяшняе жыццё.

Адна з такіх з'яў, якую так і свярбіць зарэгістраваць у кнізе Гінеса, — гэта разменная манета, што знаходзіцца сёння ў абарачэнні ў Беларусі. Каб было больш наглядна, пачнём з прозы жыцця. Вам трэба пайсці ў магазін і нешта купіць, да прыкладу, хлеба і малака. Цешачыся, што вы адразу знайшлі і тое, і другое, становіцеся ў чаргу да касы, каб разлічыцца. Дачакаліся, з вас .належыць некалькі рублёў і яшчэ, скажам, 40 капеек. У вас, вядома, іх няма, бо разменнай манеты практычна няма нідзе ў горадзе, мо хіба толькі ў банку. Тады на ваш лішні рубель вам даюць рэшты... пачак запалак. Яго кошт 50 капеек. Астатнія 10 капеек не лічацца. Хочаце ці не, патрэбны вам запалкі ці не, а возьмеце, бо ў касе манеты няма. Толькі тое, што з рук у рукі: ад пакупніка — касіру, ад касіра — другому такому ж пакупніку. Ён стаіць ля касы яшчэ ў адной чарзе і чакае, каб атрымаць сваю законную рэшту: можа назбіраецца ў касе.

На ваша патрабаванне належачай вам капейкі касіры безапеляцыйна адсякаюць: «Чакайце!» Вы можаце чакаць дзесяць мінут, паўгадзіны, гадзіну. Вы можаце нервавацца і злавацца — гэта ўжо вашы праблемы. У магазіне возьмуць за тавар усё, што належыць, да капейкі, а ўжо вам належнае — як Бог дасць. Многія ж, калі не большасць з нас, на прапанову чакаць рэшты толькі махнуць рукой: хай прападае.

Але ж не прападае! Вашы капейкі асядаюць рублямі, сотнямі рублёў, тысячамі ў магазінах, а куды яны далей ідуць, можна толькі здагадвацца. Магазіны бядуюць, што ў іх няма разменнай манеты, банк не дае, а банк сцвярджае, што мяхамі пхае тую манету магазінам, ды яны адмаўляюцца браць. Зачараванае кола на простым шляху да рынку! А людзі дасведчаныя пагаворваюць, што работнікам прылаўка гэта выгадна, можа і маюць рацыю, бо калі наш фотакарэспандэнт памкнуўся адкрыта зрабіць здымак, як даюць рэшты запалкамі, то магазіннае начальства замітусілася і ў касе тут жа з'явілася дробная манета.

Цяжка прадракаць будучыню разменнай манеты вартасцю ў адзін пачак запалак: магчыма, гэта пераходныя грошы, як і нашы «зайцы» з «ваўкамі». А пакуль што яны маюць стабільнае хаджэнне. Не толькі вам дадуць рэшты запалкамі замест капеек, але і вы, не маючы ў кашальку дробных грошай, можаце дастаць з кішэні пачак запалак і аддаць яго касіру. Прыме. Бы манету.

Апошняя навіна: канкурэнцыю запалкам могуць скласці яблыкі і сушкі. Яны таксама пайшлі ў абарачэнне як разменная манета.

Я. ГІЛУЦЁВІЧ.
Фота Віктара СТАВЕРА.

## ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА

# БУДАВАЛІ КАРАБЕЛЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Ала ОРСА-РАМАНА нарадзілася ў Навагрудку, разам з бацькамі трапіла ў Нямеччыну, пасля ў ЗША. Прафесар хіміі Нью-Йоркскага універсітэта. Бярэ актыўны ўдзел у дзейнасці Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ў ЗША. З'яўляецца кіраўнічкай беларускага танцавальнага калектыву «Васілёк» у Амерыцы.**

Спадарыня Ала Орса-Рамана забараніла мне называць сябе на «вы». «У нас так не прынята, калі ласка, лепш на «ты» пастарайся, зрабі прыемнасць», — папрасіла яна.

Ала — асоба яркая і неардынарная, з разнастайнымі інтарэсамі і захапленнямі. Яе густыя-густыя жоўта-жытнёвыя валасы напэўна з поспехам замяняць зімой футравую шапку. Кароткая стрыжка надае ўсяму яе абліччу нешта гарэзлівае, дзявочае, непрадказальнае, а горда ўскінутая галава выдае характар цвёрдага, упартага чалавека, які ведае, чаго ён варты. Тонкая, з бездакорнай паставай, фігурай танцоўшчыцы; лёгкая, імклівая хада; прыемны голас — яна спявае ў царкоўным хоры; абаяльная ўсмешка.

Напэўна, доктар Орса-Рамана вельмі цікава чытае лекцыі студэнтам, бо, акрамя навуковых здольнасцяў і ведаў, мае яшчэ і цудоўныя артыстычныя даныя. Аналітычнасць розуму і гульня, пераўвасабленне даволі гарманічна ўжываюцца ў асобе аднаго чалавека, надаючы ёй арыгінальнасць, своеасаблівасць і загадкавасць.

Расказваць пра Алу-вучонага не буду. Неяк пацікавілася тэмай яе навуковага даследавання, яе «дактарату», але гаворка не атрымалася; надта ўжо далёкай аказалася я ад праблем сучаснай хіміі, надта недасведчанай. Шкада, канешне, бо работа ў амерыканцаў заўсёды на першым месцы. Але ж на другім у паважанага прафесара, безумоўна, — беларушчына. І гэта мяне цікавіць куды больш, чым хімія.

Дачка беларускіх дзеячаў, педагогаў Аляксандра і Наталлі Орсаў, якія ўсё жыццё прысвяцілі справе адукацыі, выхавання нацыянальнай годнасці і самасвядомасці беларускай моладзі, працягвае пачэсную справу бацькоў.

Два гады назад яна прывезла ў Беларусь танцавальную групу моладзі «Васілёк», удзельнікамі якой былі хлопцы і дзяўчаты беларускага паходжання, што нарадзіліся ў Амерыцы і ніколі не былі на радзіме бацькоў. Не трэба казаць, з якім натхненнем і ўздымам танцавала моладзь. Але несумненным лідэрам сярод іх была Ала. З цяжкасцю верылася, што яна не прафесіянал, а аматар. Дарэчы, як і ўсе іншыя ў групе. Выступленне ў Мінску стала яе трыумфам і як артысткі, і як кіраўніка «Васілька».

Толькі ў Амерыцы, ужо трохі пазнаёміўшыся з жыццём нашых суайчыннікаў, праблемамі беларускай эміграцыі, я змагла ацаніць, якую вялікую справу зрабіла дачка Орсаў, арганізаваўшы «Васілёк», залучыўшы да заняткаў у ім дзяцей, падлеткаў і моладзь, наладзіўшы выступленні калектыву ў прыгожых нацыянальных строях у беларускіх асяродках ЗША, а таксама і на прэстыжных амерыканскіх фестывалях. Якія былі вынікі намаганняў малодшай Орса? Пераацаніць іх немагчыма. Напэўна, трэба сказаць, у якіх няпростых варунках існуе беларуская эміграцыя ў Амерыцы. Не атрымліваючы ніякай духоўнай пажывы і падтрымкі з Бацькаўшчыны, у сварках на рэлігійнай глебе, яна пачала асімілявацца, губляць сваё нацыянальнае аблічча.

З'яўленне «Васілька» было вельмі своечасовым. Бацькі аддавалі дзетак у ансамбль, дзе тых навучалі беларускім танцам і песням, старэйшыя шылі ім касцюмы для выступленняў. Словам, кола закруцілася. А пасля вельмі ўдалых выступленняў «Васілька» на нацыянальных амерыканскіх святах статус беларускай эміграцыі сярод народаў іншых нацыянальнасцей, што жывуць у Амерыцы, рэзка ўзрос. Сам гэты факт меў вельмі станоўчае ўздзеянне на нацыянальныя пачуцці беларусаў, неяк ускалыхнуў іх, абудзіў да грамадскай дзейнасці.

Чаго ўсё гэта каштавала кіраўніку «Васілька», можна толькі здагадвацца. Спадарыня Ала ніколі не акцэнтавала на гэтым увагу. А між тым, я даведалася, што, каб самой быць пастаянна ў форме, яна мусіла некалькі разоў на тыдзень браць урокі харэаграфіі. Нават і летам, калі ў яе канікулы, яна не перапыняе заняткаў. Што б ні было, а дзве-тры гадзіны працы каля станка! Я бачыла, жывучы ў Алы, якой яна вяртаецца дамоў пасля такіх урокаў: ціхая, шчаслівая, стомленая. Мяркуючы па ўсім, яе прызваннем была сцэна, дзе яна бліскуча магла б выконваць ролі галоўных гераінь, праслаўляючы талентам Беларусь.

Хаця скардзіцца на свой лёс дачка Орсаў наўрад ці можа: у яе выдатная адукацыя, прэстыжная прафесія. Муж, Франэк Рамана, італьянец па паходжанні, таксама прафесар, можа гаварыць па-беларуску. Сыны, Паўлюк і Коля, выхаваны маці ў беларускім духу, абодва танцуюць у «Васільку». Яна ні ў чым не здрадзіла сабе, спраўдзіла светлыя надзеі бацькоў.

Пра што толькі ні гаварылі мы з Алай у час нашых доўгіх аўтамабільных вандровак! Само сабой — пра мінулае, пра палітыку, пра асобу Гарбачова, пра беларускі парламент, пра Бога, пра шматмернасць сусвету і сэнс чалавечага існавання на Зямлі. Жывая і не стомленая жыццём душа гэтай жанчыны, хаця і не адкрывалася наросхрыст, але прагнула шчырасці, адкрытасці, убірала яе, як губка ваду. Яна верыць у бессмяротнасць душы, у тое, што пасля смерці чалавека застаюцца яго добрыя справы, а душа яго перасяляецца ў іншыя істоты, у звяроў і птушак, у кветкі і дрэвы. Напэўна, таму і папыталася, якім дрэвам я хацела б быць у іншым сваім жыцці.

— Яблыняй,— быў адказ.

А ў якім дрэве яна бачыць сваю душу, не сказала.

**Аляксандр ОРСА нарадзіўся 24 ліпеня 1896 года ў мястэчку Нягневічы на Навагрудчыне. У 1918 годзе працаваў настаўнікам пачатковай школы. Атрымаў вышэйшую адукацыю ў Празе і дыплом доктара прыродазнаўчых навук. Працаваў у Беларускай гімназіі ў Навагрудку. Пасля быў высланы польскімі ўладамі з этнічных беларускіх тэрыторый у глыб Польшчы.**

**У час нямецкай акупацыі Беларусі працаваў інспектарам школ Навагрудскай акругі.**

**Апынуўшыся на эміграцыі, прымаў удзел у арганізацыі Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы і стаў яе дырэктарам.**

**Пазней, у ЗША, удзельнічаў у арганізацыі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, першай парафіі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Нью-Йорку.**

Кароткія факты біяграфіі і жыцця чалавека, які здабыў вялікі маральны аўтарытэт і павагу сярод сваіх вучняў, працаваў у імя будучай незалежнасці і вольнасці свайго народа, канешне ж, мала гавораць аб яго асобе і яго часе. На жаль, і гэтыя кароткія звесткі пакуль не знойдзеш ні ў адной энцыклапедыі ці даведніку, выдадзеных у Беларусі. Але жыве гэты чалавек у памяці ўдзячных нашчадкаў, сваіх выхаванцаў, у іх справах.

Збіраючы матэрыялы пра Аляксандра Орсу, я запісала ўспаміны яго дачкі — Алы Орса-Рамана, Ніны Орса, жонкі брата Аляксандра — Пятра, Лілы Тур — стрыечнай сястры Алы Орса, якая цудам выжыла ў час сталінскага тэрору і жыве ў Мінску, а таксама вучняў і саратнікаў вядомага беларускага дзеяча.

— Тата і мама абодва з сялянаў, з бедных сем'яў, — расказвае Ала Орса. — Мама расла сіратой, татаў бацька таксама вельмі маладым памёр, так што ім нялёгка было, і яны ведалі, як цяжка дзецям сялян выбіцца ў людзі.

Нягледзячы на самыя розныя перашкоды, Аляксандр Орса атрымаў сярэднюю адукацыю і паступіў на двухгадовыя настаўніцкія курсы, што дало яму магчымасць выкладаць і ў пачатковых школах. Аднак заняцца педагагічнай працай не давялося, бо быў прызваны ў царскую армію, а з пачаткам першай сусветнай вайны пасланы на фронт.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, на пачатку 1918 года, вяртаецца на Навагрудчыну. Нямецкую акупацыю змяняе польская. Новыя ўлады не даюць магчымасці працаваць Орсе настаўнікам, і той пачынае займацца грамадскімі беларускімі справамі. «У гэты час А. Орса карыстаецца вялікім даверам насельніцтва Нягневіцкай воласці, якое выбірае яго сваім прадстаўніком для размеркавання харчовай дапамогі, зарганізаванай урадам ЗША для пацярпеўшых у вайну, — піша ў артыкуле, апублікаваным у эміgranцкай прэсе, В. Плескач. — Гэтыя дапамаговыя камітэты арганізуюцца пад кіраўніцтвам А.Орсы на тэрыторыі цэлай Наваградскай акругі, прыносячы вялікую дапамогу насельніцтву. Адначасна дагавор аб нацыянальных меншасцях паміж Польшчаю і заходнімі дзяржавамі з 1921 года дае гваранцыі нацыянальным меншасцям у Польшчы, у тым ліку й беларусам у Заходняй Беларусі, палітычных і грамадзянскіх правоў. На жаль, польская Другая Рэчпаспалітая ўжо ад пачатку свайго існавання не датрымала гэтых гваранцыяў і пачала палітыку дыскрымінацыі й рэлігійнай нетalяранцыі ў адносінах да беларусаў. З увагі на гэтую палітыку польскага ўраду, грамадска-нацыянальная праца беларусаў была кантраляваная польскімі афіцыяльнымі чыньнікамі, якія імкнуліся да дэнацыяналізацыі беларускага насельніцтва, ужываючы розныя мэтады суровай рэпрэсіі і супроць беларускіх дзеячоў. Аднак і гэта не паўстрымала маладога настаўніка ад актыўнай працы. Ён памагаў арганізаваць культурна-асветную дзейнасць сярод беларускага насельніцтва ў нашых вёсках, ладзячы спектаклі й рэфэраты ды ўсьведамляючы нацыянальна беларускага селяніна».

Але рэпрэсіўная дзейнасць польскіх уладаў у адносінах да беларусаў не дае ім магчымасці, нягледзячы на ўсе намаганні, атрымаць прадстаўніцтва ў сейме, і Аляксандр Орса вымушаны пакінуць родны край, выехаць на вучобу ў Чэхаславакію.

**З успамінаў Алы ОРСА-РАМАНА:**

— Дзядзька Пятрусь расказваў, як адбылася сямейная сходка, на якой вырашылі, хто пойдзе вучыцца, а хто павінен гаспадарку глядзець. Дык вырашылі, што Аляксандр пойдзе, а Пятро застанецца. Пачуўшы гэта, дзядзька Пятрусь залез на печ і два дні плакаў, што яму не выпала вучоба. Праўда, пазней ён таксама адправіўся ў Прагу за асветай. Мама мая яшчэ раней бацькі перайшла мяжу нелегальна, каб трапіць на вучобу. Яна расказвала, што ўмовы жыцця там былі цяжкія, страшны голад быў, вельмі шмат хто са студэнтаў на сухоты хварэў. Яна брала любую працу — посуд мыла ў бурсе, прыбірала. Хаця мела стыпендыю, праўда, невялікую. Стыпендыяй жа яна дзялілася з тымі, у каго зусім не было сродкаў. Увогуле студэнты з Беларусі, а гэта былі найбольш свядомыя беларусы, імкнуліся памагаць адзін аднаму.

Тата прыйшоў у Прагу на пару гадоў пазней за маму. Там яны, дарэчы, і пажаніліся.

Моцна звязала на ўсё жыццё Наталлю і Аляксандра не толькі каханне, але і любоў да Бацькаўшчыны, жаданне быць карыснымі свайму гаротнаму беларускаму народу. З дыпломамі аб вышэйшай адукацыі маладая сям'я ў 1929 годзе вяртаецца ў Заходнюю Беларусь. Нягледзячы на права выкладання ў польскіх дзяржаўных гімназіях, доктар прыродазнаўчых навук А. Орса звязвае свой лёс з Беларускай гімназіяй у Навагрудку, хаця гэта сярэдняя школа не мела дзяржаўных правоў і ўтрымлівалася за кошт бедных сялян і мяшчан — бацькоў навучэнцаў.

**З успамінаў Алы ОРСА-РАМАНА:**

— Бацька і маці лічылі самым галоўным адукоўваць беларускую моладзь. Палякі далі дазвол на адкрыццё Беларускай гімназіі, але не далі сродкаў на яе ўтрыманне. Таму было неверагодна цяжка наладзіць там вучобу. Бацька мой хадзіў па вёсках і ўгаворваў бацькоў аддаваць дзяцей у школу, каб не трымалі іх дома, а пасылалі па навуку. Ён разумеў, як гэта цяжка сялянам аддаць сына, пазбавіцца яго дапамогі, але ўсё роўна хадзіў, пераконваў людзей, стараўся мець лучнасць з людзьмі, давесці, што адукацыя ёсць вельмі важная ў жыцці чалавека. Мае бацькі былі перакананыя, што, каб стаць незалежнымі, трэба быць спачатку адукаванымі.

Палякі далі за плату працаваць толькі чатыром настаўнікам у Беларускай гімназіі, і тыя складвалі свае зарплаты і дзялілі пароўну на 18—20 выкладчыкаў. Бо нярэдка было, што бацькі не маглі заплаціць за вучобу сваіх дзяцей, і сродкаў зусім не было. Грошай было мала, з ядою вельмі цяжка. Самаахвярныя настаўнікі працавалі самааддана, выкладанне вялося на вышэйшым узроўні.

Дзеці і падлеткі стараліся летам працаваць, збіраць збожжа ці што яшчэ рабіць, каб скласціся на гімназію.

Нечакана для польскіх уладаў гімназія расквітнела, стала выпускаць вучняў, якія былі ўзгадаваны ў беларускім духу і добра падрыхтаваны да універсітэта. Гэта не спадабалася польскім уладам, і яны ў 1934 годзе зачынілі Беларускую гімназію, яе настаўнікаў разагналі, Орсаў выслалі аж пад Варшаву без права вяртання назад.

У 1929 годзе з Прагі ў Беларусь з дыпломам агранома вярнуўся і брат Аляксандра Орсы — Пётр, які таксама ўзяўся за новаўвядзенні, пра якія даведаўся ў Чэхаславакіі.

**З успамінаў Ніны ОРСА:**

— Пётр з сябрамі арганізавалі так званы кааператыў, куды кожны селянін здаваў малако — малачарню. Яна дзейнічала вельмі паспяхова ў пачатку 30-х гадоў, пастаўляла гораду, па ўсёй акрузе і нават далей сыры, масла, смятану.

Быў заведзены такі парадак: пры прыёме малака ў гаспадароў вызначаюць яго тлустасць і ў адпаведнасці з гэтым плацяць. Існаванне такіх спажывецкіх кааператываў было вельмі прагрэсіўнай з'явай у Заходняй Беларусі. Але стаўленне палякаў увогуле да беларусаў, да іх дзейнасці было выразна адмоўным. Беларус нават не мог купіць зямлі блізка мяжы, усялякую меў дыскрымінацыю. Палякі лічылі, што ўсе беларусы — камуністы, за нашай малачарняй пастаянна прыглядалі, думаючы, што мы нейкую сувязь з Саветамі маем. Пазней самастойныя малачарскія таварыствы перасталі існаваць, у 1938 годзе яны злучыліся з польскай кааперацыяй.

Нацярпеўшыся ад польскіх уладаў, якія праводзілі палітыку дэнацыяналізацыі беларусаў, нашы землякі на тэрыторыях Заходняй Беларусі з надзеяй і трывогай сустрэкалі ў 1939 годзе Чырвоную Армію.

Як кажа Ала Орса-Рамана, яе бацькі, якія з нападам фашысцкай Германіі на Польшчу вярнуліся дамоў, не мелі ілюзій наконт савецкай улады. Яны былі сведкамі таго, як у Прагу, дзе яны вучыліся, прыязджалі людзі з Савецкай Беларусі і ўгаворвалі моладзь вяртацца назад, дапамагаць будаваць «новае жыццё ў вольнай незалежнай краіне». Многія тады павярталіся, але амаль усе загінулі ці пазней, ці раней. Так здарылася і з малодшым братам Аляксандра Орсы—Мікалаем, які паддаўся на ўгаворы і прыехаў з Прагі на Беларусь. Яго як ветэрынара абвінавацілі ў наўмысным атручэнні калгасных кароў і саслалі ў Сібір, дзе ён і загінуў.

У здрадзе і шпіёнстве абвінавацілі сястру Наталлі Орса — Лену з мужам, якія з Польшчы перабраліся ў Савецкую Беларусь, паддаўшыся прапагандзе аб райскім жыцці ў Саветах. Муж яе памёр у турме, а сама Лена прайшла праз інквізітарскія допыты і здзекі ў следчых ізалятарах. Ад дачкі нябожчыцы цёткі Лены — Лілы Тур я даведалася пра тое, якія жахі давялося перажыць ёй разам з малодшай сястрой пасля арышту бацькоў. Слухаць споведзь гэтай хворай, адзінокай жанчыны з пакалечаным лёсам, якая дасюль яшчэ баіцца ўслых гаварыць пра тыя падзеі, запалоханай і застрашанай, немагчыма без слёз.

**З успамінаў Алы ОРСА-РАМАНА:**

— Як мы жылі пры Саветах? У вечным страху. Я маленькая была, памятаю, як адпраўлялі мяне бацькі з пакоя, калі хацелі аб нечым па-

(Заканчэнне на 6-й стар.).

Ул. СЫРАКОМЛЯ

# МІНСК

## МІНСК—ВАЯВОДСТВА. РОСТ І НЯШЧАСЦІ ГОРАДА



«Значыць, каралеўскія лісты ў вас, паны бургамістры, не заслугоўваюць павагі? Значыць, не толькі прытрымаць самаўпраўцаў, але нават слушнага адказу каралю даць не жадаеце?» Так вусна і пісьмова пратэставаў у горадзе Мінску Марахоўскі, але гэты ягоны пратэст застаўся без аніякіх вынікаў. Зыгмунт III, заняты вайною з Расеяй, не мог займацца пакараннем смельчакоў. А слаўны мінскі магістрат, як слушна сказаў пан бургамістр Васіль Маслянка, аж занадта меў клопату ў той, напраўду гарачы ,час. Усімі чатырма божымі карамі — хваробаю, голадам, агнём і вайною — быў закрануты гэты край у першыя гады XVII стагоддзя. Голад 1602 года, што вынішчыў на Літве шмат тысяч беднага люду , не мог не закрануць і Мінска, размешчанага ў неўраджайнай старане і запоўненага прышлым людам. У выніку голаду (сведчыць Пясецкі) паводка заразных хваробаў заліла ўсю Польшчу ў гэтым і наступным гадах. У мясцовых дакументах знаходзім згадку пра чуму ў Мінску напярэдадні 1617 года і адносім яе да 1602—1603 гадоў. Дакументы таксама сведчаць пра пажар, ахвяраю якога стаў Мінск.

Вось так прайшлі па гэтай старане ў першыя гады XVII стагоддзя тры Божыя кары: голад, чума і агонь.

А згубная вайна... Што яна магла прынесці спакойным местам і вёскам у часы Зыгмунта III пры абсалютнай адсутнасці вайсковай дысцыпліны?! У тым жа абнятым няшчасцямі 1602 годзе праходзілі сюдою ў Інфлянты запарожскія казакі. Пасля, размешчаны амаль на гасцінцы, што вёў з Польшчы ў Маскву, горад быў прынесены ў ахвяру ўзброеным канфедэратам і ясным панам як польскім, так і літоўскім, што з сваімі атрадамі праходзілі на поўнач. Па некалькі тыдняў гуляла тут рыцарства, па некалькі тысяч народу за адзін раз спынялася ў горадзе. Ахвяраванням, павіннасцям на ўтрыманне каралеўскага войска, абозам, прыгнёту і здзеку над мясцовым людам не было ні канца, ні меры. Цяжар гэтых пабораў і павіннасцей шмат гадоў ляжаў на плячах горада, які не меў іншых даходаў, апроч слаба развітога гандлю і рамёстваў. Мясцовыя сілы былі няздольныя вынесці гэткі цяжар і сцярпець такі ўціск.

Так слёзна расказвалі пра сваю бяду мінскія мяшчане ў 1617 годзе на Віленскім сойме Літоўскаму сенату. Але ці быў ·які вынік з гэтага? Ці здольна была каралеўская ўлада Зыгмунта III дапамагчы гораду і суняць самавольства магнатаў і войска — не ведаем, але спадзяёмся. Увогуле, прывілеяваны Магдэбургам, але эканамічна слаба развіты горад цярпеў крыўды і ўціск не толькі ад уплывовых гасцей. Дзяржаўная ўлада ваяводаў і старастаў вяла пастаянную барацьбу з гарадскою ўладаю паноў бургамістраў і членаў магістрата. Натуральна, што прайгравалі слабейшыя. Духавенства абодвух веравызнанняў, моцнае маральнаю перавагаю і ўплывоваю падтрымкаю трона, таксама насміхалася з аўтарытэту магістрата. Праз пару гадоў пасля сумнай чалабітнай каралю, пра якую мы ўпаміналі, мінскае мяшчанства вымушана было зноў жаліцца на мясцовы ўціск. У 1618 годзе ваявода з прыезджых купцоў самавольна рабіў гандлёвыя паборы, тым самым стрымліваючы развіццё мясцовага гандлю і правакуючы дарагавізну, садзіў мяшчан без ведама гарадской улады ў Замкавую турму, апячатваў гарадскія бровары, забіраў дамы, размешчаныя на тэрыторыі замка, не даючы магчымасці законнага расследавання крыўдаў, забараняў гарадской уладзе прымаць скаргі пакрыўджаных і данясенні возных. Уніяцкае духавенства, з свайго боку, у 1616 годзе забрала ў горада бальніцу, што стаяла на гарадскім пляцы, «недалёка ад Панталінскай пярэрвы, у канцы нізкага мосту», і бальнічны Жабчынскі фальварак над ракою Сляпня.

Зыгмунт III, разумеючы слушнасць гэтых скаргаў, пісаў напамінальныя лісты да ваяводы і духавенства, але мы так і не знайшлі вынікаў гэтага каралеўскага заступніцтва.

Добрую, аднак жа, памяць пакінула тут рыцарства, што, вяртаючыся з рускай кампаніі з багатымі ваеннымі трафеямі, угледзела на Высокім рынку муры будучага касцёла і кляштару дамініканаў, якія заснавала Зоф'я Служчына з роду Завішаў, удава інфлянцкага ваяводы Крыштафа Служкі. Ухваліўшы капытковую складчыну, ахвяравалі рыцары на будаўніцтва гэтай святыні вялікія грошы.

Гэта, праўда, вуснае паданне, не запісанае ў «Гісторыю дамініканаў» Акольскага, але пацверджанае васьмю гербамі палкаводцаў гэтай кампаніі, намаляванымі ў святыні дамініканаў.

Паданне гэтае дае нам цудоўнае ўяўленне пра характар тагачаснага рыцарства, што адначасна самавольнічала, здзекавалася з беднага мужыка і мешчаніна і шчодра сыпала грошы на ахвяру Божага алтара, па-бабрынаму залівалася слязьмі перад спавядальняю. Але тут жа зноў спяшалася на новае гульбішча і чыніла новыя здзекі.

«Ужо ж такі жывуць яны паводле свайго статута!» — жартаваў сябар тагачаснага рыцарства, бясцэнны Альбертус, вядомы сваімі незабыўнымі ваеннымі паходамі.

Не ведаем дакладна ні даты першага ахвяравання Зоф'і Служчынай мінскім дамініканам, ні даты шчодрага рыцарскага дару. Вядома толькі, што ў 1605 годзе на генеральнай капітуле ў Рыме дамініканскі закон засведчыў, што прымае гэтыя ахвяраванні «імем канвенту св. Тамаша з Аквіну». Муры касцёла і кляштара патроху раслі, а пераселеныя з Вільні дамініканы ў збудаванай на хуткую руку драўлянай капліцы адпраўлялі Божую службу. На сваім месцы дараскажам рэшту гісторыі гэтай святыні.

Тады, каля 1610 года, рымска-каталіцкае веравызнанне мела два касцёлы: парафіяльны і дамініканскі, абодва на Высокім рынку, у бок якога ад старое свае сядзібы, ад Траецкай гары і ракі Нямігі, пачала пераносіцца больш людная і значная частка горада.

Рускае веравызнанне таксама набывала новыя дамы малітвы, але ў лоне гэтага веравызнання паўставалі цяжкія нягоды то ў імя уніі, то ў імя пратэсту даўняму абраду. Дэталёва і аб'ектыўна перабяром некалькі гадоў гэтых спрэчак, не ўтойваючы прыкрасці, якую адчуваем, прыадкрываючы заслону часу з некаторых выпадкаў.

Частка мяшчан, як мы ўжо гаварылі, не хочучы прымаць уніі, высільваючыся, збудавала для сябе царкву Народзін Дзевы Марыі, перавёўшы ў яе манахаў з Віленскага кляштару св. Духа.

Частка шляхты, верная непаяднанаму з Рымам абраду, падтрыманая п. Багданавай-Стацкевіч, у 1613 годзе на выкупленай зямлі па вуліцы Юраўскай, над возерам, што ўпадае ў Свіслач, узвяла муры манастыра і царквы святых апосталаў Пятра і Паўла, аддаючы іх манахам, якіх прывяла з Вільні. Увогуле, каб умацаваць і запэўніць апеку сваёй фундацыі, новы кляштар св. Пятра і Паўла зрабілі філіяльнаю прыналежнасцю Віленскага кляштара св. Духа, які ўпарта супраціўляўся уніі. Фундацыя гэта ў пазнейшы час набыла значныя памеры. Каля 1620 года галоўная царква ўжо была амаль закончана, нягледзячы на перашкоды, якія чынілі ваявода Пётра Тышкевіч, уніяцкі мітрапаліт Язэп Веліямін Руцкі і яго намеснік у Мінску, ксёндз Гіляры Барановіч. Пры царкве існавала школа, павялічыліся ахвяраванні, і ў 1618 годзе пры той жа царкве, на пляцы, падараваным п. Ганнаю Стацкевіч, быў заснаваны грэка-расейскі кляштар манашак. Фонды на будоўлю і купчую двух зямельных надзелаў у суме 3 490 коп літоўскіх грошай перадалі з сваіх зберажэнняў самі манахіні.

У наступным 1619 годзе, 14 студзеня, пасля закладкі фундаментаў, Ганна Стацкевіч, пісьмова пацвярджаючы сваё ахвяраванне, прызначыла апекунамі згаданага кляштара вядомых у гісторыі пратэстантызму магнатаў: князя Януша Радзівіла, Марціна Валадковіча, князя Яна Агінскага, Юры Тышкевіча і яшчэ некалькі прадстаўнікоў слыннай шляхты, слушна мяркуючы, што гэтыя, непрыязныя да католікаў, заможныя пратэстанты ахвотна і паспяхова будуць ахоўваць ахвяраванне ад магчымых пасяганняў заходняга касцёла.

Бо трэба, на жаль, прызнаць, што ўзаемная неталерантнасць абодвух веравызнанняў выклікала на працягу ўсяго панавання Зыгмунта III горкія і нечаканыя праявы.

Вышэй мы прывялі некалькі прыкладаў падобных канфліктаў. Мяркуем не спыніцца на гэтым. Вернікі ўсходняй царквы, не з'яднаныя з Рымам, варожым вокам пазіралі на уніятаў, якія, з свайго боку, падтрыманыя апекаю трона, таксама давалі нямала падстаў для варожасці. У 1616 годзе пра ўзаемнае глумленне, бахвальства і насілле, што парушалі спакой мінскіх жыхароў, стала вядома трону. Зыгмунт III прызначыў пасланцамі ў Мінск інфлянцкага ваяводу Крыштафа Служку і кашталяна Пётру Тышкевіча, наказваючы магістрату ў лісце ад 5-га кастрычніка, каб вінаватыя былі пакараны. Імі аказаліся неуніяты. Абнадзееныя падтрымкаю, уніяты яшчэ смялей пачалі выказваць сваю варожасць да праціўнікаў. Уніяцкія манахіні пры царкве святых Казьмы і Даміяна падбухторвалі падлеткаў з свае школы да вулічных боек з хлапчукамі з кляштару св. Паўла, што, як зазначалася, належаў неуніятам.

Такая бойка адбылася 16 лютага 1617 года, верхаводзілі ў ёй базыляне Дэміс Хмяльніцкі і Мікалай Новак. Ідучы з харугваю на чале некалькіх дзесяткаў шкаляроў, яны напалі на групу праціўнікаў, білі іх, закідалі камянямі і прымусілі ўцякаць. Такая ж вулічная сутычка, але ўжо дарослых мела месца ў 1620 годзе ў часе пабудовы ўсходняй царквы на Нямізе і ў красавіку таго ж года падчас сабора уніятаў, які адбываўся ў Мінску пад кіраўніцтвам мітрапаліта Руцкага. Калі гарачы праціўнік уніі, манах Тодар Ярмоліч пачаў падбухторваць жыхароў Мінска, мітрапаліт загадаў яго супакоіць. Але мяшчане неуніяты разам са студэнтамі, якіх трымалі за свой кошт пры новай царкве і брацкай школе, натоўпам адбілі Ярмоліча і з трыумфам павялі яго да свайго брацтва.

Такія сутычкі паміж прадстаўнікамі двух веравызнанняў і вулічныя бойкі студэнцкай і школьнай моладзі не былі ў тыя часы навіною. Езуіты і пратэстанты ў іншых гарадах учынялі тое ж самае. Не раз мелі месца і крывавыя сцэны. Разам з сумам, з якім глядзіш на такое парушэнне грамадскага спакою, прыходзіць і ўцеха, калі даведваешся, што ў далёкім ад цэнтра краіны месцы, якім быў Мінск, люд адчуваў патрэбу ў адукацыі. У школе базыльянаў-уніятаў было некалькі дзесяткаў вучняў; у не такой шматлюднай, але добра абсталяванай неуніяцкай школе вучылася таксама значная колькасць дзяцей.

Пры фундацыі кожнай царквы чытаем паведамленне пра школу. Пратэстанты, якіх нямала было сярод тутэйшай шляхты, не маглі даць сябе апярэдзіць. А каталіцкае веравызнанне, якое хутка павялічвала колькасць сваіх святынь, таксама самаадданa працавала на карысць пашырэння асветы.

Як было сказана вышэй, інфлянцкая ваяводка Зоф'я Служчына заснавала тут кляштар дамініканаў, ахвяраванне на які павялічыла рыцарства. Нарэшце аселі тут і пераведзеныя з віленскага манастыра св. Духа дамінікане. Ордэн іхні дзейнічаў у Літве ў дзвюх правінцыях, літоўскай і рускай, але не вельмі дакладна акрэсленыя межы паміж імі былі прычынаю канфліктаў і спрэчак.

Нядаўна закладзены Мінскі канвент стаў прадметам адной з такіх спрэчак. Канец сутычкам, якія доўжыліся некалькі гадоў, быў пакладзены ажно ў Рыме: канвент гэты аднеслі да рускай правінцыі. У 1622 годзе літоўскія дамініканы былі вымушаны адклікаць сваіх братоў з Мінска ў Вільню. А на капітулах рускай правінцыі, якія адпраўляліся ў Падгайцах і Буску на чале з Мар'янам Крапінскім, грамада тае ж правінцыі прыняла Мінскі канвент у сваё ўладанне. Мінскі ваявода Пётра Тышкевіч спешна ўзяўся мураваць для іх касцёл і кляштар на пляцы, падараваным ім жа ў 1615 годзе.

І калі пажар у хуткім часе ператварыў у друз вынікі набожных высілкаў, зноў знайшліся апантаныя паборнікі ордэна, што наноў узнялі святыню і памножылі яе ахвяраванні. Гэтымі дабрачынцамі былі: віцебская ваяводка Марцэля з князёў Карэцкіх, у першым замужжы Хлябовіч, у другім — Букоўская, аршанскі святар, ксёндз Якуб Пацэвіч, Юры Завіша і іншыя.

Да ганаровых дабрачынцаў канвенту мінскіх дамініканаў трэба далучыць Яна Воўка, які адпісаў ім свой маёнтак Румніцкае, пра што сведчыць даравальная грамата 1640 года.

Не маючы пад рукою аўтэнтычных крыніц, не ведаем, што сказаць пра мінскіх бернардзінцаў. П. Балінскі сцвярджае, што фундатарам бернардзінцаў у Мінску быў красносельскі староста Ян Кансоўскі, які ў 1628 годзе падараваў ім пляц і драўляны касцёл. На карце бернардзінскіх канвентаў, складзенай і гравіраванай у Нясвіжы Гіршам Ляйбовічам, знаходзім паведамленне, што фундатарам мінскіх бернардзінцаў у 1724 годзе быў Андрэй Кансоўскі. Дата тым больш праўдападобная, што Нясецкі ўспамінае Яна Кансоўскага ўжо на пачатку XVIII стагоддзя.

Працяг. Пачатак у №№ 29—34.

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

# БУДАВАЛІ КАРАБЕЛЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Ала ОРСА-РАМАНА нарадзілася ў Навагрудку, разам з бацькамі трапіла ў Нямеччыну, пасля ў ЗША. Прафесар хіміі Нью-Йоркскага універсітэта. Бярэ актыўны ўдзел у дзейнасці Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ў ЗША. З'яўляецца кіраўнічкай беларускага танцавальнага калектыву «Васілёк» у Амерыцы.**

Спадарыня Ала Орса-Рамана забараніла мне называць сябе на «вы». «У нас так не прынята, калі ласка, лепш на «ты» пастарайся, зрабі прыемнасць», — папрасіла яна.

Ала — асоба яркая і неардынарная, з разнастайнымі інтарэсамі і захапленнямі. Яе густыя-густыя жоўта-жытнёвыя валасы напэўна з поспехам заменяць зімой футравую шапку. Кароткая стрыжка надае ўсяму яе абліччу нешта гарэзлівае, дзявочае, непрадказальнае, а горда ўскінутая галава выдае характар цвёрдага, упартага чалавека, які ведае, чаго ён варты. Тонкая, з бездакорнай паставай, фігурай танцоўшчыцы; лёгкая, імклівая хада; прыемны голас — яна спявае ў царкоўным хоры; абаяльная ўсмешка.

Напэўна, доктар Орса-Рамана вельмі цікава чытае лекцыі студэнтам, бо, акрамя навуковых здольнасцяў і ведаў, мае яшчэ і цудоўныя артыстычныя даныя. Аналітычнасць розуму і гульня, пераўвасабленне даволі гарманічна ўжываюцца ў асобе аднаго чалавека, надаючы ёй арыгінальнасць, своеасаблівасць і загадкавасць.

Расказваць пра Алу-вучонага не буду. Неяк пацікавілася тэмай яе навуковага даследавання, яе «дактарату», але гаворка не атрымалася; надта ўжо далёкай аказалася я ад праблем сучаснай хіміі, надта недасведчанай. Шкада, канешне, бо работа ў амерыканцаў заўсёды на першым месцы. Але ж на другім у паважанага прафесара, безумоўна, — беларушчына. І гэта мяне цікавіць куды больш, чым хімія.

Дачка беларускіх дзеячаў, педагогаў Аляксандра і Наталлі Орсаў, якія ўсё жыццё прысвяцілі справе адукацыі, выхавання нацыянальнай годнасці і самасвядомасці беларускай моладзі, працягвае пачэсную справу бацькоў.

Два гады назад яна прывезла ў Беларусь танцавальную групу моладзі «Васілёк», удзельнікамі якой былі хлопцы і дзяўчаты беларускага паходжання, што нарадзіліся ў Амерыцы і ніколі не былі на радзіме бацькоў. Не трэба казаць, з якім натхненнем і ўздымам танцавала моладзь. Але несумненным лідэрам сярод іх была Ала. З цяжкасцю верылася, што яна не прафесіянал, а аматар. Дарэчы, як і ўсе іншыя ў групе. Выступленне ў Мінску стала яе трыумфам і як артысткі, і як кіраўніка «Васілька».

Толькі ў Амерыцы, ужо трохі пазнаёміўшыся з жыццём нашых суайчыннікаў, праблемамі беларускай эміграцыі, я змагла ацаніць, якую вялікую справу зрабіла дачка Орсаў, арганізаваўшы «Васілёк», залучыўшы да заняткаў у ім дзяцей, падлеткаў і моладзь, наладзіўшы выступленні калектыву ў прыгожых нацыянальных строях у беларускіх асяродках ЗША, а таксама і на прэстыжных амерыканскіх фестывалях. Якія былі вынікі намаганняў малодшай Орса? Пераацаніць іх немагчыма. Напэўна, трэба сказаць, у якіх няпростых варунках існуе беларуская эміграцыя ў Амерыцы. Не атрымліваючы ніякай духоўнай пажывы і падтрымкі з Бацькаўшчыны, у сварках на рэлігійнай глебе, яна пачала асімілявацца, губляць сваё нацыянальнае аблічча.

З'яўленне «Васілька» было вельмі своечасовым. Бацькі аддавалі дзетак у ансамбль, дзе тых навучалі беларускім танцам і песням, старэйшыя шылі ім касцюмы для выступленняў. Словам, кола закруцілася. А пасля вельмі ўдалых выступленняў «Васілька» на нацыянальных амерыканскіх святах статус беларускай эміграцыі сярод народаў іншых нацыянальнасцей, што жывуць у Амерыцы, рэзка ўзрос. Сам гэты факт меў вельмі станоўчае ўздзеянне на нацыянальныя пачуцці беларусаў, неяк ускалыхнуў іх, абудзіў да грамадскай дзейнасці.

Чаго ўсё гэта каштавала кіраўніку «Васілька», можна толькі здагадвацца. Спадарыня Ала ніколі не акцэнтавала на гэтым увагу. А між тым, я даведалася, што, каб самой быць пастаянна ў форме, яна мусіла некалькі разоў на тыдзень браць урокі харэаграфіі. Нават і летам, калі ў яе канікулы, яна не перапыняе заняткаў. Што б ні было, а дзве-тры гадзіны працы каля станка! Я бачыла, жывучы ў Алы, якой яна вяртаецца дамоў пасля такіх урокаў: ціхая, шчаслівая, стомленая. Мяркуючы па ўсім, яе прызваннем была сцэна, дзе яна бліскуча магла б выконваць ролі галоўных гераінь, праслаўляючы талентам Беларусь.

Хаця скардзіцца на свой лёс дачка Орсаў наўрад ці можа: у яе выдатная адукацыя, прэстыжная прафесія. Муж, Франэк Рамана, італьянец па паходжанні, таксама прафесар, можа гаварыць па-беларуску. Сыны, Паўлюк і Коля, выхаваны маці ў беларускім духу, абодва танцуюць у «Васільку». Яна ні ў чым не здрадзіла сабе, спраўдзіла светлыя надзеі бацькоў.

Пра што толькі ні гаварылі мы з Алай у час нашых доўгіх аўтамабільных вандровак! Само сабой — пра мінулае, пра палітыку, пра асобу Гарбачова, пра беларускі парламент, пра Бога, пра шматмернасць сусвету і сэнс чалавечага існавання на Зямлі. Жывая і не стомленая жыццём душа гэтай жанчыны, хаця і не адкрывалася наросхрыст, але прагнула шчырасці, адкрытасці, убірала яе, як губка ваду. Яна верыць у бессмяротнасць душы, у тое, што пасля смерці чалавека застаюцца яго добрыя справы, а душа яго перасяляецца ў іншыя істоты, у звяроў і птушак, у кветкі і дрэвы. Напэўна, таму і папыталася, якім дрэвам я хацела б быць у іншым сваім жыцці.

— Яблыняй,— быў адказ.

А ў якім дрэве яна бачыць сваю душу, не сказала.

**Аляксандр ОРСА нарадзіўся 24 ліпеня 1896 года ў мястэчку Нягневічы на Навагрудчыне. У 1918 годзе працаваў настаўнікам пачатковай школы. Атрымаў вышэйшую адукацыю ў Празе і дыплом доктара прыродазнаўчых навук. Працаваў у Беларускай гімназіі ў Навагрудку. Пасля быў высланы польскімі ўладамі з этнічных беларускіх тэрыторый у глыб Польшчы.**

**У час нямецкай акупацыі Беларусі працаваў інспектарам школ Навагрудскай акругі.**

**Апынуўшыся на эміграцыі, прымаў удзел у арганізацыі Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы і стаў яе дырэктарам.**

**Пазней, у ЗША, удзельнічаў у арганізацыі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, першай парафіі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Нью-Йорку.**

Кароткія факты біяграфіі і жыцця чалавека, які здабыў вялікі маральны аўтарытэт і павагу сярод сваіх вучняў, працаваў у імя будучай незалежнасці і вольнасці свайго народа, канешне ж, мала гавораць аб яго асобе і яго часе. На жаль, і гэтыя кароткія звесткі пакуль не знойдзеш ні ў адной энцыклапедыі ці даведніку, выдадзеных у Беларусі. Але жыве гэты чалавек у памяці ўдзячных нашчадкаў, сваіх выхаванцаў, у іх справах.

Збіраючы матэрыялы пра Аляксандра Орсу, я запісала ўспаміны яго дачкі — Алы Орса-Рамана, Ніны Орса, жонкі брата Аляксандра — Пятра, Лілы Тур — стрыечнай сястры Алы Орса, якая цудам выжыла ў час сталінскага тэрору і жыве ў Мінску, а таксама вучняў і саратнікаў вядомага беларускага дзеяча.

— Тата і мама абодва з сялянаў, з бедных сем'яў, — расказвае Ала Орса. — Мама расла сіратой, татаў бацька таксама вельмі маладым памёр, так што ім нялёгка было, і яны ведалі, як цяжка дзецям сялян выбіцца ў людзі.

Нягледзячы на самыя розныя перашкоды, Аляксандр Орса атрымаў сярэднюю адукацыю і паступіў на двухгадовыя настаўніцкія курсы, што дало яму магчымасць выкладаць і ў пачатковых школах. Аднак заняцца педагагічнай працай не давялося, бо быў прызваны ў царскую армію, а з пачаткам першай сусветнай вайны пасланы на фронт.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, на пачатку 1918 года, вяртаецца на Навагрудчыну. Нямецкую акупацыю змяняе польская. Новыя ўлады не даюць магчымасці працаваць Орсе настаўнікам, і той пачынае займацца грамадскімі беларускімі справамі. «У гэты час А. Орса карыстаецца вялікім даверам насельніцтва Нягневіцкай валасці, якое выбірае яго сваім прадстаўніком для размеркавання харчовай дапамогі, зарганізаванай урадам ЗША для пацярпеўшых у вайну, — піша ў артыкуле, апублікаваным у эмігранцкай прэсе, В. Плескач. — Гэтыя дапамаговыя камітэты арганізуюцца пад кіраўніцтвам А.Орсы на тэрыторыі цэлай Навагрaдскай акругі, прыносячы вялікую дапамогу насельніцтву. Адначасна дагавор аб нацыянальных меншасцях паміж Польшчаю і заходнімі дзяржавамі з 1921 года дае гваранцыі нацыянальным меншасцям у Польшчы, у тым ліку й беларусам у Заходняй Беларусі, палітычных і грамадзянскіх правоў. На жаль, польская Другая Рэчпаспалітая ўжо ад пачатку свайго існавання не датрымала гэтых гваранцыяў і пачала палітыку дыскрымінацыі й рэлігійнай нецярпімасці... таляранцыі ў адносінах да беларусаў. З увагі на гэтую палітыку польскага ўраду, грамадска-нацыянальная праца беларусаў была кантраляваная польскімі афіцыяльнымі чыннікамі, якія імкнуліся да дэнацыяналізацыі беларускага насельніцтва, ужываючы розныя мэтады суровай рэпрэсіі і супроць беларускіх дзеячоў. Аднак і гэта не паўстрымала маладога настаўніка ад актыўнай працы. Ён памагаў арганізаваць культурна-асветную дзейнасць сярод беларускага насельніцтва ў нашых вёсках, ладзячы спектаклі й рэфэраты ды ўсьведамляючы нацыянальна беларускага селяніна».

Але рэпрэсіўная дзейнасць польскіх уладаў у адносінах да беларусаў не дае ім магчымасці, нягледзячы на ўсе намаганні, атрымаць прадстаўніцтва ў сейме, і Аляксандр Орса вымушаны пакінуць родны край, выехаць на вучобу ў Чэхаславакію.

**З успамінаў Алы ОРСА-РАМАНА:**

— Дзядзька Пятрусь расказваў, як адбылася сямейная сходка, на якой вырашылі, хто пойдзе вучыцца, а хто павінен гаспадарку глядзець. Дык вырашылі, што Аляксандр пойдзе, а Пятро застанецца. Пачуўшы гэта, дзядзька Пятрусь залез на печ і два дні плакаў, што яму не выпала вучоба. Праўда, пазней ён таксама адправіўся ў Прагу за асветай. Мама мая яшчэ раней бацькі перайшла мяжу нелегальна, каб трапіць на вучобу. Яна расказвала, што ўмовы жыцця там былі цяжкія, страшны голад быў, вельмі шмат хто са студэнтаў на сухоты хварэў. Яна брала любую працу — посуд мыла ў бурсе, прыбірала. Хаця мела стыпендыю, праўда, невялікую. Стыпендыяй жа яна дзялілася з тымі, у каго зусім не было сродкаў. Увогуле студэнты з Беларусі, а гэта былі найбольш свядомыя беларусы, імкнуліся памагаць адзін аднаму.

Тата прыйшоў у Прагу на пару гадоў пазней за маму. Там яны, дарэчы, і пажаніліся.

Моцна звязала на ўсё жыццё Наталлю і Аляксандра не толькі каханне, але і любоў да Бацькаўшчыны, жаданне быць карыснымі свайму гаротнаму беларускаму народу. З дыпломамі аб вышэйшай адукацыі маладая сям'я ў 1929 годзе вяртаецца ў Заходнюю Беларусь. Нягледзячы на права выкладання ў польскіх дзяржаўных гімназіях, доктар прыродазнаўчых навук А. Орса звязвае свой лёс з Беларускай гімназіяй у Навагрудку, хаця гэта сярэдняя школа не мела дзяржаўных правоў і ўтрымлівалася за кошт бедных сялян і мяшчан — бацькоў навучэнцаў.

**З успамінаў Алы ОРСА-РАМАНА:**

— Бацька і маці лічылі самым галоўным адукоўваць беларускую моладзь. Палякі далі дазвол на адкрыццё Беларускай гімназіі, але не далі сродкаў на яе ўтрыманне. Таму было неверагодна цяжка наладзіць там вучобу. Бацька мой хадзіў па вёсках і ўгаворваў бацькоў аддаваць дзяцей у школу, каб не трымалі іх дома, а пасылалі па навуку. Ён разумеў, як гэта цяжка сялянам аддаць сына, пазбавіцца яго дапамогі, але ўсё роўна хадзіў, пераконваў людзей, стараўся мець лучнасць з людзьмі, давесці, што адукацыя ёсць вельмі важная ў жыцці чалавека. Мае бацькі былі перакананыя, што, каб стаць незалежнымі, трэба быць спачатку адукаванымі.

Палякі далі за плату працаваць толькі чатыром настаўнікам у Беларускай гімназіі, і тыя складвалі свае зарплаты і дзялілі пароўну на 18—20 выкладчыкаў. Бо нярэдка было, што бацькі не маглі заплаціць за вучобу сваіх дзяцей, і сродкаў зусім не было. Грошай было мала, з ядою вельмі цяжка. Самаахвярныя настаўнікі працавалі самаададдана, выкладанне вялося на вышэйшым узроўні.

Дзеці і падлеткі стараліся летам працаваць, збіраць збожжа ці што яшчэ рабіць, каб скласціся на гімназію.

Нечакана для польскіх уладаў гімназія расквітнела, стала выпускаць вучняў, якія былі ўзгадаваны ў беларускім духу і добра падрыхтаваны да універсітэта. Гэта не спадабалася польскім уладам, і яны ў 1934 годзе зачынілі Беларускую гімназію, яе настаўнікаў разагналі, Орсаў выслалі аж пад Варшаву без права вяртання назад.

У 1929 годзе з Прагі ў Беларусь з дыпломам агранома вярнуўся і брат Аляксандра Орсы — Пётр, які таксама ўзяўся за новаўвядзенні, пра якія даведаўся ў Чэхаславакіі.

**З успамінаў Ніны ОРСА:**

— Пётр з сябрамі арганізавалі так званы кааператыў, куды кожны селянін здаваў малако — малачарню. Яна дзейнічала вельмі паспяхова ў пачатку 30-х гадоў, пастаўляла гораду, па ўсёй акрузе і нават далей сыры, масла, смятану.

Быў заведзены такі парадак: пры прыёме малака ў гаспадароў вызначаюць яго тлустасць і ў адпаведнасці з гэтым плацяць. Існаванне такіх спажывецкіх кааператываў было вельмі прагрэсіўнай з'явай у Заходняй Беларусі. Але стаўленне палякаў увогуле да беларусаў, да іх дзейнасці было выразна адмоўным. Беларус нават не мог купіць зямлі блізка мяжы, усялякую меў дыскрымінацыю. Палякі лічылі, што ўсе беларусы — камуністы, за нашай малачарняй пастаянна прыглядалі, думаючы, што мы нейкую сувязь з Саветамі маем. Пазней самастойныя малачарскія таварыствы перасталі існаваць, у 1938 годзе яны злучыліся з польскай кааперацыяй.

Нацярпеўшыся ад польскіх уладаў, якія праводзілі палітыку дэнацыяналізацыі беларусаў, нашы землякі на тэрыторыях Заходняй Беларусі з надзеяй і трывогай сустрэкалі ў 1939 годзе Чырвоную Армію.

Як кажа Ала Орса-Рамана, яе бацькі, якія з нападам фашысцкай Германіі на Польшчу вярнуліся дамоў, не мелі ілюзій наконт савецкай улады. Яны былі сведкамі таго, як у Прагу, дзе яны вучыліся, прыязджалі людзі з Савецкай Беларусі і ўгаворвалі моладзь вяртацца назад, дапамагаць будаваць «новае жыццё ў вольнай незалежнай краіне». Многія тады павярталіся, але амаль усе загінулі ці пазней, ці раней. Так здарылася і з малодшым братам Аляксандра Орсы—Мікалаем, які паддаўся на ўгаворы і прыехаў з Прагі на Беларусь. Яго як ветэрынара абвінавацілі ў наўмысным атручэнні калгасных кароў і саслалі ў Сібір, дзе ён і загінуў.

У здрадзе і шпіёнстве абвінавацілі сястру Наталлі Орса — Лену з мужам, якія з Польшчы перабраліся ў Савецкую Беларусь, паддаўшыся прапагандзе аб райскім жыцці ў Саветах. Муж яе памёр у турме, а сама Лена прайшла праз інквізітарскія допыты і здзекі ў следчых ізалятарах. Ад дачкі нябожчыцы цёткі Лены — Лілы Тур я даведалася пра тое, якія жахі давялося перажыць ёй разам з малодшай сястрой пасля арышту бацькоў. Слухаць споведзь гэтай хворай, адзінокай жанчыны з пакалечаным лёсам, якая дасюль яшчэ баіцца ўслых гаварыць пра тыя падзеі, запалоханай і застрашанай, немагчыма без слёз.

**З успамінаў Алы ОРСА-РАМАНА:**

— Як мы жылі пры Саветах? У вечным страху. Я маленькая была, памятаю, як адпраўлялі мяне бацькі з пакоя, калі хацелі аб нечым па-

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# УСЁ ЖЫЦЦЁ ЛЮБІЎ НАВАЛЬНІЦЫ

*Пімену ПАНЧАНКУ — 75 гадоў*



Ён нарадзіўся ў спякотны жнівеньскі дзень 1917 года ў Эстоніі, у далёкім Рэвелі, дзе бацькі яго, беззямельныя сяляне з Міншчыны, імкнуліся знайсці лепшую долю. З Рэвеля адплывалі ў чужыну сотні беларусаў, пакідаючы край, у якім не было для іх хлеба. Каб не Кастрычніцкая рэвалюцыя і бальшавікі, якія наабяцалі народу зямлю і волю, то іх сям'я, напэўна, не вярнулася б у Беларусь.

Рэвалюцыя для Пімена Панчанкі, як і для іншых дзяцей 20-х гадоў, стала фактам уласнай біяграфіі. Ён рос апантаны ідэяй разбурыць стары свет і пабудаваць новае, справядлівае жыццё. У шэсць гадоў уступіў у піянерскую арганізацыю, якая ў будынку Бягомльскай царквы зрабіла свой клуб. Ён не насіў крыжа і не верыў у Бога, затое верыў у камунізм і яго ідэалы. «Як паэт, я пачынаў моцна захоплены ідэямі і духам свайго часу,— пісаў Пімен Панчанка. — Аднак у жыцці існавалі не толькі радасць, любоў, прыгажосць... Немагчыма было не заўважыць існаваўшых супярэчнасцей, зла, несправядлівасці».

Ад першага паэтычнага зборніка Пімена Панчанкі, «Упэўненасць», які ўбачыў свет у 1938 годзе, да зборніка новых вершаў «І вера, і вернасць, і вечнасць» (1986 год) —дыстанцыя надзвычай вялікая. І не толькі ў сэнсе майстэрства паэта альбо глыбіні спасціжэння ім жыцця. Равеснік рэвалюцыі, які натхнёна апяваў веліч здзяйсненняў савецкай улады, з болем і трывогай загаварыў пра бездухоўнасць нашага грамадства, крывадушша і прыстасаванства чыноўнікаў, якія, прыкрываючыся лозунгамі і прыгожымі словамі пра светлую будучыню, зусім не дбаюць пра свой народ. Устрывожаны голас народнага паэта, лаўрэата літаратурных і дзяржаўных прэмій, аўтарытэтнага чалавека, быў пачуты чытачамі. І хаця людзі даўно ўжо і самі разумелі, што нешта не тое робіцца ў нашым доме, тым не менш гнеўныя, вострапубліцыстычныя вершы Пімена Панчанкі адыгралі сваю станоўчую ролю ў абуджэнні грамадства.

«Паэт, я лічу, па сутнасці, не толькі мастак, але і хранікёр, гісторыёграф, калі хочаце, празорца, здольны распазнаць яшчэ ў зародку новыя з'явы грамадскага развіцця, даследаваць глыбінную сутнасць таго, што адбываецца сёння, і прадбачыць тыя праблемы і тыя задачы, якія будуць галоўнымі для нас заўтра».— казаў Пімен Панчанка ў нядаўнім інтэрв'ю «Голасу Радзімы».— Таму паэт павінен ведаць усе «болькі» грамадства, адчуваць чужы боль, быць, так сказаць, на вастры свайго часу, узнімаць і адкрыта гаварыць пра самыя адмоўныя з'явы жыцця і яго надзённыя праблемы».

Дарэчы, гэтым сваім прынцыпам Пімен Панчанка не здраджваў ніколі. «Слова, — казаў ён,— для мяне не сродак адлюстравання жыцця, а форма ўдзелу ў ім». Ён і праўда ніколі не чакаў, пакуль час вынесе прысуд той ці іншай складанай і новай з'яве, а браўся судзіць яе рашуча і нават рызыкоўна, не баючыся ўзвальваць на плечы «персанальную» адказнасць.

Усё жыццё Пімен Емяльянавіч любіў навальніцы. «Калі моцна разбушуецца стыхія: бліскаюць маланкі, шуміць раз'юшаны вецер, дрыжыць усё паветра — толькі тады, мусіць, сучасны чалавек і можа ўсвядоміць усю магутнасць і сілу прыроды, яе першабытную веліч»,— пісаў ён. Але, на жаль, здароўе ўжо не дае магчымасці паэту пад праліўным дажджом і маланкамі.

Не маючы магчымасці сустрэцца з журналістамі, Пімен Панчанка ўсё ж згадзіўся пісьмова адказаць на некалькі пытанняў рэдакцыі «Голасу Радзімы». За гэта мы шчыра ўдзячныя яму.

— Незалежнасць Беларусі, ці рэальнасць гэта для вас?

— Незалежнасць Беларусі — гэта наша і мая гордасць, наша заваёва. Але рэальнасць гэтага — самы пачатак (прызнанне незалежнасці пацвердзілі дзесяткі краін: ЗША, Англія, Францыя, Італія, Польша, Турцыя і г. д.). Зацвярджана дзяржаўная сімволіка (бел-чырвона-белы сцяг, «Пагоня», ствараецца дзяржаўны гімн). Але нам цяжка адвыкнуць ад таго, што ўсім кіруе Масква, «старэйшы брат», мы ў эканамічным крызісе, бо парваліся або рвуцца саюзныя сувязі (стаяць гатовыя трактары, бо няма некаторых дэталяў, не хапае гаручага, металу, вугалю).

Але паволі набывацца іменна беларуская дзяржаўнасць (ствараецца беларускае войска, заключаны добрыя дагаворы з капіталістычнымі дзяржавамі, адмаўленне ад міжнароднай харчовай дапамогі, адкрыццё нашых дыпламатычных прадстаўніцтваў і г. д.).

Цяжка з мовай, кнігавыданнем, няма новых падручнікаў, шалёныя на ўсё цэны. Перашкаджае былая партыйная наменклатура, большасць якой і ў Вярхоўным Савеце Беларусі, і ў міністэрствах, і ў сярэдніх, і ў ніжэйшых звеннях кіравання.

— У жыцці ўсё бурліць, а наша літаратура быццам анямела і, у лепшым выпадку, ілюструе падзеі. Чаму так адбываецца?

— Выхаваныя на сацыялістычным рэалізме, нашы пісьменнікі разгубіліся і ніяк не знойдуць, як і пра што сёння пісаць. Многае з напісанага страціла ўсялякую вартасць. Але застаюцца ў поўнай сіле Янка Купала і Якуб Колас, Іван Мележ і Васіль Быкаў, Аркадзь Куляшоў і Максім Танк, Уладзімір Караткевіч і Рыгор Барадулін.

Новыя аповесці напісалі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч, ужо з'яўляюцца новыя яркія вершы маладзейшых і маладых. Цяжка ўсталёўвацца беларуская мова, але і тут ёсць зрухі.

— Якім вам бачыцца шлях Беларусі ў гістарычнай перспектыве?

— Я веру ў Беларусь і ў яе шчаслівы шлях. Недарма ўсё часцей гучыць усюды: «Жыве Беларусь!»

Але зноў заварушыліся гультаі і невукі («нам не нужно белорусского языка, лучше русский или польский»).

Гэта хрушчоўская спадчына: ён у пачатку 60-х гадоў закрыў у нас беларускія школы, тэхнікумы і ВНУ. Ён казаў: «Чем вы быстрее овладеете русским языком, тем вы быстрее придете к коммунизму». Ён закрыў тысячы малых вёсак, і людзі пакінулі іх, падаліся ў гарады, на Поўнач, у Сібір. Апусцела наша сяло, а цяпер думаем, дзе купіць пшаніцу. Але ў Беларусі ўсё больш вырастае разумных людзей: прадпрымальнікаў, кааператараў, фермераў. Спадзёмся, што паменшацца крадзяжы і карупцыя. Думаю, праз 2—3 гады Беларусь вельмі зменіцца і, нарэшце, зажыве нармальным жыццём.

## УЗЫХОДЗЯЧАЯ ЗОРКА



На першы погляд гэта звычайны дзесяцігадовы хлапчук. Коля Гімалетдзінаў—выхаванец музычнага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Гарэза і непаседа, як і многія яго равеснікі, любіць пракаціцца з ветрыкам на веласіпедзе, паганяць у футбол, верхаводзіць у гульнях. Але варта яму сесці за віяланчэль—і перад вамі сталы музыкант. Аб таленце і высокім класе выканаўчага майстэрства Колі Гімалетдзінава гавораць яго ўдзел у фестывалі «Мінская вясна», выступленні ў Ватыкане, на юбілейным канцэрце славутых «Віртуозаў Масквы». Па запрашэнню Уладзіміра Співакова адправіцца Коля ў Францыю, каб прыняць удзел у міжнародным фестывалі маладых талентаў. А таму хлапечыя гульні ў яго жыцці—гэта толькі невялікая разрадка паміж урокамі з педагогам прафесарам Уладзімірам Перліным і шматгадзіннымі хатнімі заняткамі музыкай. Музыка—сэнс жыцця гэтага таленавітага хлопчыка з Мінска, «зорачкі» на сусветным музычным небасхіле.

НА ЗДЫМКАХ: Коля ГІМАЛЕТДЗІНАЎ; выступленне ў нямецкім горадзе Гюстэрсло на свяце, арганізаваным для дзяцей, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС; Коля ў басейне са сваім педагогам Уладзімірам ПЕРЛІНЫМ. Фота А. ТАЛОЧКІ.





## АБ ПРАВАСЛАЎНЫХ У ПОЛЬШЧЫ

# РУПНАСЦЬ РЫГОРА САСНЫ

Імя беларускага праваслаўнага святара айца Рыгора Сасны шырока вядома ў Польшчы і на Беларусі. Ён аўтар многіх работ па гісторыі праваслаўнай царквы. З 1984 года ім выдаецца фундаментальная «Бібліяграфія праваслаўных прыходаў на Беласточчыне». Ужо ўбачылі свет выпускі 1, 2, 3 (1984, 1985, 1986).

Чацвёрты па ліку выпуск, толькі што надрукаваны, які змяшчае 297 старонак дробнага тэксту, з'яўляецца капітальным дадаткам да раней выдадзеных. У ім змяшчаецца каля 4 000 бібліяграфічных запісаў кніг, артыкулаў і іншых матэрыялаў, уключаючы фатаграфіі, карты і рукапісы, у якіх закранаюцца пытанні гісторыі праваслаўя на Беласточчыне і шырэй—праблемы беларускай, украінскай і рускай культуры ў Польшчы.

Асноўная маса зарэгістраваных у выпуску матэрыялаў апублікавана пасля другой сусветнай вайны, у тым ліку ў вельмі рэдкіх і нават унікальных выданнях, многіх з якіх няма ў бібліятэках Беларусі.

Бібліяграфія часткова анатавана, што дае магчымасць больш правільнай арыентацыі, асабліва, калі размова ідзе аб невялікіх артыкулах у маладаступных выданнях.

Нельга не адзначыць вельмі добрае паліграфічнае выкананне кнігі, з'яўленне якой стала магчымым дзякуючы спонсарам з Польшчы і ЗША, перш за ўсё дапамогі Камісіі апекі над помнікамі старажытнасці Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі, Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, пана Пятра Кажуры.

Цікава адзначыць, што на гэты раз месцам выдання ўказаны не Беласток, а беларуская вёска Рыбалы, што непадалёку ад ракі Нарэў. Менавіта тут жыве і служыць айцец Рыгор Сасна.

**Ю. ЛАБЫНЦАЎ,**
**доктар філалагічных навук.**

## *ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА*




**1 жніўня, субота**

«Малая падарожная кніжка» — назва, якую Скарына даў сукупнасці выданняў, выпушчаных ім у Вільні каля 1522 года. У складзе «Малой падарожнай кніжкі» — «Псалтыр», «Часасловец», «Акафіст магіле господняй», «Канон магіле господняй», «Акафіст архангелу Міхаілу», «Канон архангелу Міхаілу», «Акафіст Іаану Прадцечы», «Канон Іаану Прадцечы», «Акафіст Багародзіцы», «Канон Багародзіцы», «Акафіст святому Пятру і Паўлу», «Канон святому Пятру і Паўлу», «Акафіст святому Міколе», «Канон святому Міколе», «Акафіст крыжу господняму», «Канон крыжу господняму», «Акафіст Ісусу», «Канон Ісусу», «Шасцідневец», «Канон пакаяльны», «Саборнік», у які ўваходзяць «Святцы» і «Пасхалія», а таксама агульнае пасляслоўе: «Писаныи речи в сей Малой подорожной книжце по ряду кратце положены суть». Па складу «Малая падарожная кніжка» блізкая да так званага «Псалтыра з паследаваннем».

Раней «Малую падарожную кніжку» датавалі каля 1525 года, лічылі, што яна выйшла ў свет пасля віленскага «Апостала» 1525 года. Знаходка ў Капенгагене экземпляра поўнай «Пасхаліі» дазволіла ўдакладніць дату — каля 1522 года. Да апошняга часу ў літаратуры сукупнасць выданняў называлі «Малая падарожная кніжыца». У 1975 годзе Я. Ісаевіч указаў, што ў пасляслоўі да «Малой падарожнай кніжкі» — «в сей малой подорожной книжце...» «книжце» — форма меснага склону ад слова «книжка», а не «книжица». Таму правільная назва — «Малая падарожная кніжка». Асобныя часткі «Малой падарожнай кніжкі» захаваліся ў рознай колькасці экземпляраў. Часцей за іншыя сустракаюцца «Псалтыр» і «Часасловец» (па 9 экземпляраў). Самыя рэдкія — «Канон пакаяльны» (2 экземпляры), «Саборнік» і «Шасцідневец (па 4 экземпляры). «Пасхалія» як састаўная частка «Саборніка» захавалася толькі ў капенгагенскім экземпляры «Малой падарожнай кніжкі».

Я. НЕМІРОЎСКІ.

**15 жніўня, субота**

*З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ*

## КУЛЬТ ДРЭЎ У БЕЛАРУСАЎ

Культ дрэў звязаны з анімістычнымі культамі абагатварэння прыроды. Асабліва шанаваўся дуб: у старажытных грэкаў гэта дрэва Зеўса, у рымлян — Юпітэра, у літоўцаў — Пяркунаса, а ў беларусаў — Перуна і г.д. Ва ўсходніх славян дуб звязаны і з культам продкаў, таму не выпадкова дуб часта называюць Волатам, Асілкам. Да нядаўняга часу некаторым дубам насілі ахвяры і на галіны вешалі ручнікі (вёска Царкавішча на Ушаччыне, Саўкін дуб каля гарадскога пасёлка Бягомль, дуб каля вёскі Палыкавічы Магілёўскага раёна, дуб «Дэвайціс» на Ашмяншчыне, дуб каля Слоніма і інш.).

Павагай у беларусаў карысталася і сасна. Пра некаторыя сосны існуюць паданні (каля вёскі Мішневічы Шумілінскага раёна, каля Лідскага замка, Французская сасна на кургане каля вёскі Узрэчча Глыбоцкага раёна і г.д.). Шырока вядома сасна каля вёскі Старыца Салігорскага раёна. Па паданню, аднаму селяніну, хвораму вачыма, прыснілася, што, каб вылечыцца, ён павінен побач з сасной паставіць крыж. Селянін так зрабіў і нібыта вылечыўся. Людзі насілі да сасны лён і грошы.

Вялікай пашанай карысталіся тры ліпы каля вёскі Капланцы Бярэзінскага раёна. Па павер'ях, ліпы лячылі людзей. Для гэтага хвораму трэба было пралезці праз дзірку ў дрэве і разарваць на сабе тую частку адзення, якая дакраналася да хворага месца. Потым надзявалі новую адзежу. Каля гэтых ліп адбываліся кірмашы, святы.

Шмат паданняў звязана таксама з асінай, вярбой і бярозай. Сёння людзі ўжо не звяртаюцца да дрэў па лячэнне і дапамогу, але яшчэ можна пачуць аб дрэвах паданні і павер'і, у якіх ёсць адгалоскі міфаў нашых продкаў.

Л. ДУЧЫЦ.

**27 жніўня, чацвер**

*СА СТАРОГА КАЛЕНДАРА*

## ВЕЧА

У старадаўнія часы ў нас на Беларусі і ўва ўсёй славяншчыне наогул грамадскім жыццём кіравала веча — народны сход; веча збіралася ў найгалоўнейшым горадзе воласці — княстве. Тут яно вырашала ўсе справы, выбірала ўладу, князя, старшыняў, рашала вайну ці мір з суседзямі, прычым, калі князь ужо быў, дык ён не меў права рашаючага голасу, а толькі ўнасіў тыя ці іншыя прапазыцыі, і ад веча залежала, прыняць іх ці не. Калі ж князь нарушаў пастаўленыя яму ўмовы, яно «паказвала князю путь» — адбірала ўладу. Веча збіралася па гуку вечавога звона.

Справы на вечах рашаліся большасцю галасоў, як на цяперашніх вясковых сходах. Пастанова веча была безапеляцыйнай.

9 ліпеня 1931 года.

## ФОТАРЭПАРЦЁР УГЛЕДЗЕЎ





Сустрэчы на мінскіх вуліцах.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## РАДЗІМА СУСТРЭЛА ГЕРОЯ

Самы папулярны на сённяшні дзень беларускі спартсмен Віталь Шчэрба, які, дарэчы, не церпіць журналістаў, апынуўся, сам таго не жадаючы, у цэнтры ўвагі прэсы. Аказалася, што за яго спартыўнымі перамогамі разам са шчырымі балельшчыкамі сачылі і злодзеі, якія, узламаўшы дзверы яго аднапакаёвай кватэры, укралі дваццаць адну тысячу долараў ЗША, шэсць тысяч швейцарскіх франкаў, чатыры залатыя вырабы, магнітафон, відэамагнітафон і іншыя рэчы.

У нашай краіне найбольш бяспечна, мусіць, быць жабраком—і спіш па начах спакойна, і дзверы сваёй панельнай аднапакаёвай кватэры адчыняеш без страху. «Калі ў вас няма дома, пажар яму не страшны». А калі здарылася такая «непрыемнасць», і дом ёсць? А калі адбылося яшчэ горшае, і нешта з'явілася ў доме? Што рабіць тады? Насіць усё гэта з сабой? Глупства, скажаце вы. Але ўсё ж, хто абароніць нашых спартыўных зорак? Віталь Шчэрба не першы, хто пацярпеў: зусім нядаўна ахвярай злодзеяў стала гімнастка Марына Лобач. Шкада, калі радасць ад спартыўных перамог абарочваецца аднымі непрыемнасцямі. А можа спартсменам пакідаць свае грошы ў замежных банках, там, дзе яны былі атрыманы? А можа адразу, разам з грашыма, і самім там заставацца? Вядомая наша тэнісістка Наталля Зверава на рабаванні быццам бы яшчэ не скардзілася...

І яшчэ адно: думаю, што тыя, хто ламаў дзверы кватэры алімпійскага чэмпіёна, мусіць, у першую чаргу палявалі за яго медалямі. Але іх там не аказалася. Не бядуйце, панове! Яны ў маці Віталя, пра што адразу паслужліва паведаміла прэса. Надрукавалі б адразу і адрас, каб злозеям не мітусіцца...

В. АНАТОЛЬЕВА.

## КАРАВАН МІРУ З ІТАЛІІ

З прыгранічнага Брэста на Мінск, а затым Маскву адправіліся ўдзельнікі маршу салідарнасці «Цераз любоў да міласэрнасці». Рушыўшы ў дарогу 5 жніўня з Фларэнцыі, аўтакараван з 55 машын і 200 італьянскіх бегуноў паставіў мэту за васемнаццаць дзён перадолець адлегласць 4 200 кіламетраў.

Прыбыўшы ў горад над Бугам, госці сталі ўдзельнікамі захапляючага відовішча, што адбылося вечарам, таму што разам з караванам міру прыбыла група падтрымкі ў асобе італьянскіх музыкантаў, якія выступілі з вялікім канцэртам. Акрамя гарачых прамоў і цудоўных італьянскіх песень, пасланцы міру прывезлі гуманітарныя грузы. І яшчэ адна характэрная дэталь: амаль усе ўдзельнікі звышдалёкага марафона сталі донарамі.

## УЗЯЦЬ У САЮЗНІКІ СОНЦА

Энергетычны крызіс прымусіў прадпрыемствы, цэлыя рэгіёны больш актыўна развіваць нетрадыцыйныя метады атрымання энергіі — так лічаць работнікі малога прадпрыемства «Арт-атэлье» з Брэста, гатовага прадаставіць любому заказчыку праекты і чарцяжы геліяўстановак.

На думку «артаўцаў», энергія сонца, выкарыстаннем якой паспяхова займаюцца ў Японіі, ЗША, Індыі і Францыі, мае добрыя перспектывы. Сонечныя ж установкі ў сваёй большасці танныя, экалагічна чыстыя, іх можна ўстанавіць у любым раёне і выкарыстоўваць як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы. У Беларусі справа пакуль тармозіцца адсутнасцю сонечных калектараў і акумулятараў сонечнай энергіі. Адна надзея на тое, што рынак, які прымушае лічыць усё і ўся, заахвоціць энтузіястаў бізнесу наладзіць патрэбную вытворчасць у масавым маштабе.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1522.
Падпісана да друку 24.08.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12